Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

IV СЭСІЯ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ Б. С. С. Р. VII СКЛІКАНЬНЯ

# БЮЛЕТЭНЬ

## № 2






18 студзеня 1927 г.

МЕНСК

## Да ведама прамоўцаў.

Усе прамоўцы, якія заўважаць недакладнасьці ў сваіх прамовах, зьмешчаных у бюлетэнях Сэсіі, павінны зараз-жа пасьля атрыманьня бюлетэню заявіць аб гэтым ў рэдакцыйную камісію. Гэтая заява і папраўкі павінны быць зроблены на працягу трох гадзін па выдачы бюлетэню. Пасьля гэтага тэрміну прамовы будуць аддавацца для друку ў стэнаграфічнай справаздачы Сэсіі, і ніякія заявы аб зьменах і папраўках прымацца ня будуць.

## 2-ое пасяджэньне Чацьвертай Сэсіі ЦВК 7-га скліканьня.

(Ранішняе).

*19 студзеня 1927 г.*

Пасяджэньне адчынілася а 10 гадзіне.

*Старшыня А. Г. Чарвякоў.*

Тав. Луцкевіч.—Таварышы, да рэволюцыі было зямляўпарадкавана сялянства ў два разы менш, чымся цяпер. Савецкі ўрад за гэтыя 4 гады ў зямляўпарадкаваньні мае вялікія посьпехі.

Сялянства добра ведае аб гэтых посьпехах. Сялянства добра ведае, што да рэволюцыі ў нас, у Бабруйшчыне, было вельмі мала школ,—значна менш, чым цяпер. Сялянства добра ведае, што пры савецкай уладзе яно можа дарма карыстацца мэдычнай дапамогай.

Сялянства мне даручыла заявіць вам, што яно чытае газэты і добра ведае, што робіцца ў Заходняй Беларусі. Сялянства добра ведае, што ў Заходняй Беларусі на сялян робяць аблавы, як на ваўкоў. Сялянства даручыла мне заявіць нашаму ўраду, што яно добра ведае, што ў нас ніякага імпэрыялізму няма. Яно добра ведае, што той імпэрыялізм, аб якім нам казаў учора т. Чарвякоў, ёсьць не ў савецкай улады, а ў Польшчы.

Сялянства нашае Бабруйшчыны заяўляе, што яно і далей будзе будаваць социялізм, што яно і ў далейшым будзе працягваць працу пад кіраўніцтвам нашае партыі і ўраду. Сялянства даручыла мне заявіць, што яно будзе працаваць над узьняцьцем сваёй гаспадаркі, але калі хто-небудзь будзе пасягаць на Савецкую Беларусь, на Саюз Социялістычных Савецкіх Рэспублік, дык сялянства, як сказаў тут адзін таварыш з Рэчыцкага павету, на час пакіне свае плугі і дапаможа Чырвонай арміі адбіць ахвоту ў тых, хто захацеў-бы зрабіць аблаву на нашу тэрыторыю.

Вось гэта даручылі мне перадаць нашы сяляне і рабочыя, і яны абяцаюць нашаму ўраду ў далейшым працягваць працу над узмацненьнем сельскай гаспадаркі (воплескі).

Тав. Багамолава (воплескі).—Таварышы, дазвольце мне вітаць вас і прапанаваць ушанаваць уставаньнем памяць нашага вялікага правадыра т. Леніна (усе ўстаюць). Ушанаваць уставаньнем таго вялікага правадыра, які дапамог нам заваяваць тыя правы, якія мы зараз маем. Таварышы, дазвольце мне ад імя Гомельскае акругі перадаць вам гарачае прывітаньне.

Няхай жыве савецкая ўлада, няхай жыве Комуністычная партыя, няхай жыве аб'яднаная Беларусь з Гомельшчынай! (воплескі).

Таварышы, дазвольце мне папрасіць вас дапамагчы нашай воласьці ў пабудове школы II-е ступені. Я, таварышы, гутару пабеларуску і украінску, але пастараюся гаварыць толькі пабеларуску. Дапамажэце нам пабудаваць інтэрнат для новабранцаў, якія будуць апорай савецкае ўлады. Няхай жыве Беларусь з Гомельшчынай! (воплескі).

Тав. Шаблук.—Таварышы, Савецкая Беларусь утварылася ў той час, калі часьць яе тэрыторыі была окупавана польскімі панамі. Праз

некаторы час Савецкая Беларусь вызвалілася ад гэтых паноў, але, дзякуючы далейшай барацьбе, зноў прыходзілася аддаваць і зноў адбіраць тэрыторыю Савецкай Беларусі, і толькі ў 1920 г. была ўтворана Савецкая Беларусь, у якую не ўвашлі тады ўсе беларускія гарады і вёскі, чаму і трэба было Савецкую Беларусь пашырыць. Гэтага патрабавала яе экономічнае ўзмацненьне. У 1924 г., дзякуючы таму, што ў нас правільна вырашаюцца ўсе нацыянальныя пытаньні, да невялікай Беларусі былі далучаны тэрыторыі Віцебшчыны і Магілеўшчыны і, нарэшце, у канцы мінулага году былі далучаны Гомельскі і Рэчыцкі паветы. Такім чынам, таварышы, Савецкая Беларусь узбуйняецца. Савецкая Беларусь стала моцнай дзяржавай.

У сёнешні дзень, калі трэба пераглядаць наш бюджэт, мы бачым, што недахватка ў выдатнай частцы, параўнаўча з мінулым годам, зьмяншаецца.

Гэта значыць, што Савецкая Беларусь расьце, яна ўзбуйняецца і яе сродкі павялічваюцца. Я лічу, што гэта дзякуючы таму, што Савецкая Беларусь пашырылася, а таму яна экономічна ўзмацнілася.

Цікава, як сяляне ў старой Беларусі глядзяць на тое, як стварылася Беларуская Савецкая Рэспубліка. Прыходзілася гаварыць з сялянамі перад выбарамі, тлумачыць ім, якое значэньне мае далучэньне і г. д. І вось яны гавораць, што праўда, гэта добра,—хутчэй мы ўзмацнімся. А другія кажуць, жартліва ківаючы галавою на той бок: „А ці хутка мы туды перакінемся?“ Але, зразумела, пакуль што на гэта адказваць ня прыходзіцца.

Як успрымае насельніцтва далучаных тэрыторый нацыянальнае пытаньне? Аб тым, як успрыняло насельніцтва Віцебшчыны, Гомельшчыны і іншых губэрань, сьведчыць тое, што калі мы прыехалі ў Віцебск, нас сяляне і рабочыя шчыра віталі, прыносілі свае небагатыя падарункі: сяляне—снапы, каласы; рабочыя—портрэты Леніна, маўзолей, зроблены іх рукамі. Гэта, бязумоўна, гаворыць аб гарачай прыхільнасьці да Савецкай Беларусі, узмацняючы яе экономічна, уздымаючы політычную адсталасьць і хутчэй пасоўваючы да будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне.

Сяляне далучаных тэрыторый вітаюць усе мерапрыемствы савецкай улады, бо яны ведаюць, што такое савецкая ўлада, і яны вераць ва ўсе яе мерапрыемствы, але ўсё-ткі ёсьць і такія таварышы, якія або добра не разумеюць, або наўмысьля стараюцца сказіць гэтыя мерапрыемствы, асабліва пры ажыцьцяўленьні нацыянальнае політыкі. Ёсьць такія таварышы, якія самі ня хочуць працаваць на беларускай мове, і таму з горшага боку паказваюць беларускую мову; яны бяруць „Савецкую Беларусь“, політычны агляд, і чытаюць яго сялянам; бязумоўна, у сялян робіцца кіслая фізіономія, і яны гавораць, што ня хочуць такой мовы. Трэба падыйсьці да іх інакш, трэба браць больш лёгкае разуменьне іх і гутарыць з сялянамі на тэй мове, на якой яны гутараць, а не на літаратурнай мове, якой яны не разумеюць. Бо прынцып нацыянальнай політыкі ня ў прыгожасьці мовы, а ў сэнсе больш даступнага яе разуменьня шырокім пластом насельніцтва.

Тут, на Сэсіі, неабходна адзначыць яшчэ адзін цікавы момант: як вырашаецца нацыянальная політыка ў Польшчы і як у нас? Як бачыце, Савецкая Беларусь усё больш і больш расьце ня толькі за кошт тэрыторыі і насельніцтва, а за кошт свайго мацунку. Калі-ж Польшча стварылася, дык ці зрабіла яна што-небудзь да палепшаньня становішча сялян-беларусаў? Абсолютна нічога.

Калі Пілсудзкі зрабіў пераварот, тав. Чарвякоў у сваёй прамове пры адчыненьні Сэсіі казаў, што некаторыя дзівакі верылі ў тое, што сапраўды будзе добра; праўда, былі такія дзівакі, але, зразумела, ня ў нашай рэспубліцы, але факт быў той, што яны былі; ясна, што яны засталіся дзівакамі. Пілсудзкі дэкляраваў, што беларускай нацыянальнасьці трэба даць школы, трэба іх пашырыць і г. д., а калі паглядзіш, дык убачыш, што гэтыя школы не пашыраюцца, а скарачаюцца. Мы бачым, што тут разагналі адну грамаду, там заарыштавалі пяць чалавек, а там—дваццаць, а калі паглядзіш на турмы, дык яны перапоўнены беларусамі,—ня толькі інтэлігенцыяй, але і сялянствам, таму што сялянства гаворыць так, як яно можа, а пан прызвычаіўся да таго, што гаварыць на мужыцкай мове нельга, а трэба больш-менш папольску. І вось за апошні час мы бачым, як арыштоўваюць дэпутатаў, арыштоўваюць другіх людзей за тое, што яны хацелі пашырыць правы беларусаў. Зразумела, яны ня зусім дурныя людзі, яны ведаюць, што нельга прыпісваць гэта нацыянальнай політыцы, і яны прыпісваюць гэта рэволюцыйнаму настрою. Але наогул мы бачым, што Польская дзяржава яшчэ здаўна прызвычаілася так абыходзіцца; яшчэ старая Польская дзяржава да падзелу яе прызвычаілася да таго, каб уціскаць іншыя нацыянальнасьці. Пасьля-ж царскай політыкі яна яшчэ больш уціскае іх, думаючы памшчацца гэтым за мінулае, але ў сапраўднасьці памшчаюцца на рабочай клясе. Бязумоўна, Заходняя Беларусь гэта добра ведае—і ня толькі Беларусь, узяць хоць-бы украінскую або іншую нацыянальнасьць,—усе добра ведаюць, што вырашэньне нацыянальнага пытаньня немагчыма ў так званай „дэмократычнай“ Польскай рэспубліцы. Вырашэньне нацыянальнага пытаньня магчыма толькі ў межах Савецкай Беларусі; гэта даведзена фактам, а ня словам, фактам узбуйненьня нашай Беларусі, фактам добраахвотнага далучэньня Гомельскай і Рэчыцкай акруг да Беларусі. Бязумоўна, гэты факт павінен быць у нас падкрэсьлены на сялянскіх сходах; трэба больш тлумачыць сялянам, што значыць гэта пашырэньне як з экономічнага, так і політычнага ды нацыянальнага бакоў.

Буду спадзявацца, таварышы, што далучаная Гомельшчына бязумоўна далучыцца да слоў таварыша з Рэчыцкага павету і агульнымі сіламі мы здолеем перамагчы і давесьці нашу гаротную Савецкую Беларусь да такога становішча, да якога вядзе наша Комуністычная партыя, і гэтым зрабіць лішні крок да ўзмацаваньня Савецкай Беларусі.

Старшыня.—Слова мае тав. Ашаровіч.

Тав. Ашаровіч *(гаворыць паяўрэйску*: Таварышы, мы чулі даклад тав. Адамовіча аб далучэньні Гомельскага і Рэчыцкага паветаў да Беларусі. Гэты вялікі гістарычны акт, які адбыўся ў нашай рэспубліцы, мае вялікае значэньне, а таксама для яўрэйскіх рабочых мас Гомельскага і Рэчыцкага паветаў, і ў сувязі з гэтым далучэньнем у інтарэсах яўрэйскіх мас адбудзецца консолідацыя яўрэйскіх мас у нас, у нашай Рэспубліцы. Яўрэйскія масы Гомелю і Рэчыцы знаходзяцца ў адных і тых-жа ўмовах, як і яўрэйскія масы тут, у Беларусі. Яўрэйскія рабочыя з Гомелю, якія выхоўваліся ў бальшавіцкіх організацыях, якіх выхоўвае Палескі камітэт, яны ўнясуць вельмі многа з іх традыцый у наша жыцьцё. Яўрэйскія рабочыя Беларусі разам з усім пролетарыятам нашай Рэспублікі ў саюзе з сялянствам будуць змагацца за соцыялістычнае будаўніцтва ў нашай краіне.

Што робіць наша Савецкая Рэспубліка ў Беларусі для яўрэйскіх мас? Вы ведаеце, таварышы, што мы атрымалі вельмі дрэнную спадчыну ад царызму. Політыка царызму ў адносінах да яўрэяў выяві-

лася ў программе Пабеданосцава: адну трэць яўрэяў зьнішчыць шляхам пагромаў, адну трэць выгнаць і адну трэць перахрысьціць.

Царскі ўрад прыслухоўваўся да гэтай праграмы. Пагромы, імпэрыялісцкая вайна, бандытызм зусім зьнішчылі экономічнае становішча яўрэйскіх мас. Кастрычнікавая рэволюцыя ў корані перамяніла становішча яўрэйскіх мас. Савецкая ўлада пад кіраўніцтвам Компартыі прыняла шэраг мерапрыемстваў, якія павялі да рэформы социяльнай структуры яўрэйскіх мас. БССР першая дэкляравала неабходнасьць надзяленьня яўрэяў зямлёй. У сваёй дэклярацыі ЦВК і СНК паказалі, што беларускае сялянства, якое вынесла на сваіх плячох усе жудасьці нацыянальнага прыгнечаньня, будзе даваць савецкай уладзе сапраўднае падтрыманьне ў справе зьдзейсьненьня справы аграрызацыі яўрэйскіх мас, што беларускае сялянства будзе падтрымліваць справядлівае імкненьне яўрэйскай беднаты атрымаць доступ да зямлі. Беларускае сялянства ўсьвядоміла ўсё гэта. І дэклярацыя ЦВК не засталася на паперы, а яна зьдзейсьнілася ў жыцьці. Што мы бачым за апошнія два гады. Я хачу пазнаёміць Вас з некалькімі характэрнымі рысамі вынікаў гэтага зямляўладаньня. Мы маем, так сказаць, яўрэйскіх сялян у адносінах да ўсяго яўрэйскага насяленьня звыш 8%, у той час, калі пры царызьме было толькі 3%. Да рэволюцыі яўрэйскае насельніцтва мела зямлю ў колькасьці 10.200 дзесяцін, а цяпер 42.000 дзесяцін. Такім чынам, надзяленьне зямлі павялічылася ў 4 разы. Яўрэяў-сялян у Беларусі 40.000 чалавек, што складае 15,7 проц. у адносінах да ўсяго местачковага насяленьня Беларусі.

Значная колькасьць сялян яўрэяў Беларусі аб'яднана ў колектывах, якіх маецца 145. Задача Комзета на 1925-26 год была вылічана ў 16.000 дзесяцін, і зямляўпарадкавана 1.950 фамілій. Выдзелена 15.301 дзес.—95 проц., зямляўпарадкавана 1.520 фамілій—78 проц. Цікава, таварышы, што яўрэі ў колектывах разьвіваюць новыя тэхнічныя культуры, яны імкнуцца палепшыць сваю гаспадарку—сеюць бульбу, травы.

Вось цікавая зьява. У Слуцкай акрузе ёсьць „Старобін"—вялікае балота. Яно перададзена ў яўрэйскія рукі. На гэтым вучастку організавана мэліорацыйнае таварыства. Гэты вучастак цяпер пераўтвораны ў добрую зямлю. Праведзены каналы для адвода вады, сеецца капуста, буракі. З 430 дзесяцін зямлі 70 дзесяцін прачышчана і 30 дзес. кульцівіруецца. Вынікі кульцівіраваньня проста дзіўныя. З аднэй дзесяціны здымаюць 4.500 пудоў капусты, і ня дзіва, што ваколічныя сяляне прыходзяць у Старобінскае таварыства паглядзець, як яны будуюць сваё жыцьцё, як балота абарачаюць у золата. Мы можам быць упэўнены ў тым, што праз некалькі годоў гэтага краю не пазнаем.

Таварышы, і так мы бачым, што нашы Саветы ў Беларусі прыступілі да карэннай зьмены социяльнай структуры яўрэйскіх мас шляхам пераводу іх да продукцыйнай работы. Якое становішча яўрэяў у Польшчы, у ваколічных нас капіталістычных дзяржавах. Там становішча засталося такім-жа, як і ў стары царскі час. Адбыўся майскі пераварот Пілсудзкага. Яўрэйская буржуазія думала, што пераварот Пілсудзкага прынясе ім палегчаньне. Яўрэйскі пісьменьнік Шолам Аш хацеў бачыць у Пілсудзкім новага Мэсію, які вызваліць яўрэйскае насельніцтва. Што мы бачым у канцы канцоў? Мы бачым, што польскі ўрад насьмяхаецца над яўрэйскім народам. Нядаўна адбылася конфэрэнцыя яўрэйскіх настаўнікаў у Польшчы, і там была прынята рэзолюцыя протэсту супроць міністра Бартэля, які зьдзекуецца над яўрэйскай школай і настаўнікамі. А міністар Бартэль ня прызнае конфэрэнцыі яўрэйскіх настаўнікаў з тэй прычыны, што яна адбылася ў

дзень нараджэньня, хрысьціянскага сьвята, ён ня можа сабе ўявіць, як гэта можна вучыць матэматыку і прыродазнаўства на яўрэйскай мове, ён хоча і забараніў у яўрэйскіх школах выкладаць матэматыку і прыродазнаўства на яўрэйскай мове, і ні капейкі не дае для яўрэйскіх школ. Паміж польскім урадам і яўрэйскай рэлігійнай вобшчынай утвораны блёк, каб прыгнечваць яўрэйскую рабочую масу. Дэмократычная яўрэйская вобшчына не шкадуе грошай для рэлігійных установ, „ешыботы“ „хэдары“ і ні капейкі не дае для яўрэйскіх школ.

Польшча вядзе політыку нацкоўваньня аднэй нацыянальнасьці на другую, трымаючыся правіла: „падзяляй і ўладнічай“. Але мы ведаем, што яўрэйскі рабочы поруч з пролетарыятам усёй Польшчы і з беларускім і украінскім селянінам пойдзе ў барацьбу за ўтварэньне савецкай ўлады. Яўрэйская маса вельмі добра разумее, што адзіны ратунак для яе, гэта савецкая ўлада.

Таварышы, яўрэйскія рабочыя Польшчы, Літвы і др. вучацца на вопыце нашай рэволюцыі. Яны сачаць за нашай работай. Мы пераканаиы, што далучэньне Гомельшчыны выкліча сярод іх вялікі энтузыязм. Яны пераканаюцца, што толькі Компартыя правільна разьвязвае заблытанае нацыянальнае пытаньне. Яны ўбачаць, як яўрэйскія масы будуюць сваю культуру поруч з рабочымі і сялянамі Беларусі.

Далучэньне Гомельшчыны і Рэчыцы—гэта ёсьць правядзеньне політыкі Леніна (воплескі).

Польская дзяржава жадала-б правесьці програму Пабеданосцава яшчэ больш радыкальна. Пабеданосцаў жадаў зусім выгнаць яўрэяў. Калі прыяжджаюць у Польшчу ангельскія генэралы з Палестыны, яны вядуць агітацыю проці яўрэяў. Польскія міністры сумесна з ангельскімі заключаюць згоду, як пазбавіцца ад яўрэяў. Польшча вядзе політыку цкаваньня аднэй нацыянальнасьці на другую, шукае ўсялякіх спосабаў для гэтага. Польская дзяржава імкнецца нацкаваць адну нацыянальнасьць на другую для таго, каб рабочыя ўсіх нацыянальнасьцяй не маглі ўтварыць адзінага фронту.

Але мы ведаем, што яўрэйскі рабочы, яўрэйскі селянін рука аб руку пойдзе з расійскім, украінскім і польскім селянінам для ўтварэньня савецкае ўлады. Яўрэйская маса дасканала разумее, што няма другога ратунку, як савецкая ўлада, у праціўным выпадку няма чаго больш чакаць, як пагромаў і таму падобнага.

Таварышы, канчаючы, я хачу спыніцца на адным паважным момантце, як далучэньне Гомеля і Рэчыцы да Беларусі.

Мы ведаем, што гэтае злучэньне дзьвёх культур—беларускай і яўрэйскай—прынясе адну вялікую пролетарскую культуру.

Далучэньне Гомеля і Рэчыцы да Беларусі—гэта ёсьць правядзеньне політыкі Леніна (воплескі).

Тав. Яўменаў.—Таварышы, дазвольце мне ад імя працоўных Гомельскай акругі перадаць гарачае прывітаньне Сэсіі ЦВК (воплескі). Гомельская акруга, якая яшчэ нядаўна знаходзілася ў складзе СССР, цяпер, пасьля факту далучэньня, імкнецца да аднаго,—каб як найхутчэй органічна зрасьціся з Беларусьсю. І чым больш працоўныя будуць імкнуцца да гэтага, тым хутчэй нам удасца зьліцца ў адно і зьнішчыць тую розьніцу, якая яшчэ маецца, розьніцу, якая зьяўляецца спадчынай царызму. Калі мы зараз пачнем разглядаць, якія-ж настроі маюцца ў рабочых масах пасьля далучэньня, дык убачым наступнае. Я маю, праўда, ня зусім поўныя лічбы, прашлоўшага статыстычнага перапісу, лічбы, запісанымі са слоў селяніна і рабочага, лічбы, якія даводзяць, што пастанова вышэйстаячага савецкага органу ў гэтых адносі-

нах была правільная. Па 6-ці раёнах маецца 65 проц. беларусаў і крыху менш 35 проц. вялікарусаў. Гэтыя раёны прылягаюць да Новазыбкаўскага і Калінкавіцкага паветаў. Астатнія тры раёны, бязумоўна, перавысяць вышэйадзначаныя лічбы. Адны гэтыя лічбы гавораць за правільнасьць вырашэньня. Калі мы паглядзім на настрой рабочых, настрой сялян і настрой рабочай інтэлігенцыі, дык трэба сказаць, што тут ёсьць розныя плыні. Першы час, калі аб далучэньні былі толькі гутаркі, наглядалася якаясьці зьбянтэжанасьць, якаясьці няпэўнасьць, галоўным чынам, сярод рабочай інтэлігенцыі. Пасьля факту далучэньня, пасьля таго, як мы правялі даволі такі шырокую кампанію па вытлумачэньні гэтага факту, пасьля таго, як ужо пачалі праводзіць першую работу, прыстасоўваючыся да ўмоў беларусізацыі, мы наглядаем рэзкае ўзвышэньне настрою рабочых. Рэзкае ўзвышэньне настрою інтэлігенцыі і, у прыватнасьці, сярод работнікаў канцэлярскай працы, якія, дзякуючы рэорганізацыі савецкага апарату, часова, а некаторыя і на больш доўгі тэрмін засталіся беспрацоўнымі. Спынюся падрабязна на тых настроях рабочых, якія мелі месца, і на тых прычынах, якія рабілі ўплыў на ўзвышэньне настрояў у бок беларусізацыі. Адно з асноўных пытаньняў—гэта пытаньне мовазнаўства, больш правільна, тэхнікі мовы, і адсюль узмацненьне тэмпу беларусізацыі, галоўным чынам, політасьветных організацый. Пытаньне, на якой мове заўтра і пасьлязаўтра будуць працаваць, будуць гаварыць дзеці рабочых, на якой мове будзе рабіцца навучаньне ў школах, хоць з першага погляду гэтае пытаньне і драбязговае, мае надзвычайна вялікі ўплыў на настрой рабочай масы. Пасьля таго, як удалося самым грунтоўным чынам пераканаць рабочыя масы, што беларусізацыя гвалтоўна праводзіцца ня будзе, што тэмп беларусізацыі будзе залежыць ад узросту заданьня самых працоўных мас, настрой рэзка пачаў узвышацца ў бок апраўданьня політыкі, якая праводзіцца ў гэтым напрамку.

Другое пытаньне, якое надзвычайна цікавіць рабочых—гэта захаваньне тэмпу разьвіцьця індустрыялізацыі, які быў вызначаны ранейшым складам губвыканкому. Гэтае пытаньне—кавалак хлеба для многіх рабочых. Бязумоўна, працоўныя, якія зацікаўлены ў далейшым разьвіцьці ўсяе нашае прамысловасьці, чула аднесьліся да таго, як адаб'ецца гэтае далучэньне на далейшым разьвіцьці нашай прамысловасьці, і калі пасьля першых крокаў яны пераканаліся ў тым, што тэмп разьвіцьця прамысловасьці ня толькі будзе захаваны, але і ў значнай ступені будзе прысьпешаны, дык сярод рабочых мас настрой рэзка ўзвысіўся.

Калі сярод чыгуначных рабочых у першы час было прыкметна некаторая нездаваленьне, дык у сучасны момант ня толькі на афіцыяльных пасяджэньнях, але і ў прыватнай гутарцы нельга стыкнуцца з якім-бы то ні было выяўленьнем нездаваленьня. Праўда, гэтае становішча высоўвае даволі сур'ёзныя задачы перад Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам аб захаваньні і пашырэньні ўсіх програм, якія ёсьць у сучасны момант, каб у значнай ступені абхапіць тых беспрацоўных, якія цяпер маюцца, а маюцца яны ў даволі значнай колькасьці. Калі асобныя прадпрыемствы былі дапасаваны, больш правільна, напоўпрыстасаваны, да далейшага разгортваньня, у прыватнасьці, Добрускамя паперня і электростанцыя, дык трэба зрабіць усё патрэбнае, каб іх абсталяваньне было скончана як мага хутчэй, бо ўсякая забаўка ў гэтым напрамку можа быць няправільна вытлумачана. Я лічу, і работнікі Гомельскай акругі, бязумоўна, стаяць на адным пункце погляду са мною, што калі немагчыма было паляпшэньне абсталяваньня раней

ва ўмовах РСФСР, дык гэта можна было вытлумачыць шэрагам прычын. Але калі атрымаецца такая затрымка цяпер, бязумоўна, нам будзе вытлумачыць гэта цяжэй, і бязумоўна, гэта будзе вытлумачана па прычыне беларусізацыі. Я лічу, што ў гэтай частцы павінны быць чулыя адносіны з боку ЦВК.

Пераходзячы да настрою сялянства, трэба адзначыць, што меўся і маецца ў сучасны момант больш спрыяючы настрой. Але сялянства, бязумоўна, бліжэй па свайму ладу жыцьця стаіць да ладу жыцьця сялян, якія жылі ўжо пэўны пэрыод у Беларусі. І тутака праца стаіць толькі ў асноўным—гэта бязумоўнае задаволеньне тых патрэб, асабліва ў частцы пашырэньня культурных установ. Выступленьне т. Багамолавай адразу ўпёрлася ў сямігодку. Гэта ня спроста, а тлумачыцца тым, што мы маем шэраг раёнаў (праўда, такіх маецца толькі тры), якія ня маюць школы павышанага тыпу. Сялянства ўжо не задавальняецца школай паніжанага тыпу і вымагае для свайго дзіцяці далейшага руху ў гэтай галіне: бязумоўна, напор з боку сялянства быў, і бязумоўна, гэты напор трэба выкарыстаць з такім разрахункам, каб было дапушчана як мага менш перагібаў.

Пару слоў аб настроі канцэлярскіх працаўнікоў. Трэба сказаць, што хоць гэтаму нельга даваць сур'ёзнага значэньня, але паколькі за бортам засталося, прыкладам, каля 1.500 чалавек, дык яны будуць, разумеецца, выражаць сваё незадаволеньне, і ў гэтай частцы трэба адпаведным чынам пераламаць гэты настрой і знайсьці тое выйсьце, якое дало-б нам магчымасьць гэтага настрою пазбыцца.

Такім чынам, падводзячы вынікі, можна ўпэўнена сказаць, што калі першы час навокал далучэньня Гомельскай акругі былі гутаркі, наглядаліся замешкі ў рабочых масах, у апараце, дык цяпер гэтых замешак канчаткова пазбыліся і пазбыліся бязумоўна не адміністрацыйным шляхам, але шляхам укараненьня ў масы сьвядомых адносін.

Дазвольце выразіць цьвёрдую ўпэўненасьць, што паколькі рабочыя масы прызнаюць правільнымі вырашэньні, патолькі яны патрапяць замацаваць Беларускую рэспубліку і хутчэй разьвярнуць кола савецкага будаўніцтва.

Тав. Пятровіч.—Далучэньне Гомельскага і Рэчыцкага паветаў да Беларусі якраз супадае ў нас з канцом адбудоўчага пэрыоду ў нашай рэспубліцы. Ужо з 25 і 26 году Беларусь, таксама, як і ўсе Савецкія саюзныя рэспублікі, падышла да таго часу, калі наша дзяржава дасягла амаль што передваеннага пэрыоду ў народнай гаспадарцы, і перад намі стаіць вялізарная задача падняць ровень нашай дзяржавы яшчэ болей, чымся было ў передваенныя часы. І вось, у гэты час Беларуская рэспубліка з далучэньнем Гомельскай і Рэчыцкай акругі атрымлівае больш шырокую базу для свайго соцыялістычнага будаўніцтва, для разьвіцьця сваёй дзяржавы. З далучэньнем Гомельшчыны паўстаюць дзьве задачы: папершае, вырашаецца дзяржаўнае пытаньне і падругое—нацыянальнае. Яшчэ ў пачатку нашага савецкага будаўніцтва савецкая ўлада ставіла задачай падзяліць Савецкі Саюз на такія раёны, якія-б маглі за кошт сваіх мясцовых рэсурсаў шляхам дыфэрэнцыяцыі гаспадаркі павялічаць і замацоўваць сваю вытворчасьць, і тады быў намечан проект падзелу Савецкага Саюзу на раёны. Вырашэньне яго мы маем цяпер у форме Уральскай вобласьці, Паўночна-Каўказкага краю, Украіны і Беларусі, Паўночна-Заходняй вобласьці і гэтак далей. Вось тыя першыя крокі, якія зроблены на гэтым шляху.

З далучэньнем Гомельскай і Рэчыцкай акругі да БССР, бязумоўна, дзяржаўная база значна пашырылася, пролетарская база пашыраецца. Мы цяпер маем магчымасьць для дзяржаўнага і культурнага разьвіцьця, і ў гэтым сэнсе гэтае далучэньне мае вельмі важнае значэньне для далейшага будаўніцтва соцыялізму ў Беларусі, як уваднэй з граніичных частак усяго Савецкага Саюзу.

Далей перад намі стаяць вельмі важныя задачы. Тыя страхі, якія выказаў прадстаўнік Гомельшчыны аб тым, што далучэньне можа шкадліва адбіцца на палажэньні Гомельшчыны, на тым, што пляны прамысловасьці будуць крыху парушаны,—гэтыя няпэўнасьці ў пачатку могуць быць дапушчаны, але павінны быць расьсеяны, дзеля таго што Беларусь, таксама, як і Гомельшчына, ставіла сваёй задачай разьвіцьцё і замацаваньне нашай дзяржаўнай і мясцовай прамысловасьці, і ў гэтым сэнсе няма ніякай розьніцы паміж старой Беларусьсю і пашыранай тэрыторыяй Беларусі. Перад намі стаіць вялізарная задача разьвіць нашу прамысловасьць, бо лішкі нашага сельска-гаспадарчага насельніцтва, лішкі рабочай сілы ставяць вельмі вялікую проблему—падняць вытворчасьць старонкі на больш высокую ступень, чымся яна знаходзіцца ў сучасны момант.

І вось мы ставім перад сабою задачу—у бліжэйшы час разьвіць прамысловасьць як мага хутчэй. За мінулы год у Беларусі ў прамысловасьць укладзена каля 6 мільёнаў рублёў, што складае каля 25 проц. усяго асноўнага капіталу нашай прамысловасьці. Такім чынам, тэмп разьвіцьця прамысловасьці вельмі значны, і на будучы год гэты самы тэмп ня спыніцца, а застаецца ў такім самым разьмеры. Вось дзеля гэтага я і кажу, што боязьні за разьвіцьцё прамысловасьці Гомельшчыны, за яе функцыі няма і не павінна быць. У далейшым стаіць задача ўтварэньня цэлага шэрагу новых прамысловых прадпрыемстваў, якія перш за ўсё павінны выкарыстаць нашу сыравіну, павінны ўцягнуць лішнія рабочыя сілы, якія мы маем як на тэрыторыі Беларусі, гэтак і Гомельшчыны. Для гэтага трэба падумаць, як разьвіць нашую прамысловасьць.

У гэты час у плянавых органах Беларусі распрацоўваецца пяцігадовая програма прамысловасьці і намячаюцца агульныя лініі гаспадарчага разьвіцьця на бліжэйшыя 15 год. Гэтымі плянамі мы прадугледжваем ня толькі пашырэньне існуючых прадпрыемстваў, але і будаўніцтва новых прадпрыемстваў, якія маглі-б яшчэ болей абхапіць нашу вясковую гаспадарку.

Перш за ўсё трэба зьвярнуць увагу на нашую ільнаткацкую прамысловасьць, якая мае перад сабою вельмі значны грунт, для таго, каб вясковая гаспадарка была ў гэтым кірунку больш пашырана. Лясная прамысловасьць як Гомельшчыны, гэтак і старое тэрыторыі Беларусі мае адзін і той самы кірунак і тыя пэрспэктывы ў будучыне. Трэба паставіць пытаньне аб утварэньні новага тыпу прадпрыемстваў, якія-б болей выкарыстоўвалі нашую лясную сыравіну.

Далей трэба было-б паставіць пытаньне ня толькі разьвіцьця прамысловасьці на мясцовай сыравіне, але і разьвіцьця прамысловасьці на прывознай сыравіне, дзеля таго што лішкі рабочае сілы ў нас значна большыя, чымся ў іншых раёнах Саюзу, і гэта дазваляе нам сказаць, што мы маем працоўную базу, рабочую сілу, на якой можна будаваць гаспадарку. Мы бачым, у Маскве цэлы шэраг прамысловых раёнаў, якія ня могуць мець сыравіны па прычыне гушчыні насельніцтва, і яны разьвіваюць прамысловасьць на прывознай сыравіне, як, напрыклад, Беластоцкі раён у Польшчы. Дзеля гэтага мы гаворым,

што трэба паставіць пытаньне ня толькі аб разьвіцьці прамысловасьці на мясцовай сыравіне, але і на прывознай сыравіне.

У адносінах да сельскае гаспадаркі Гомельшчына, як і ўся Беларусь, прадстаўляюць сабой адзін і той самы экономічны раён, з аднолькавымі экономічнымі ўмовамі. Тыя мерапрыемствы, якія стаяць па будаўніцтву сельскай гаспадаркі ў Беларусі і па далейшай інтэнсыфікацыі яе, якраз такія самыя, як і ў далучаных Гомельскім і Рэчыцкім паветах.

У межах Беларусі маецца вялікая сыстэма рэк: уся сярэдзіна Дняпра, Прыпяць, Сож, вялікія значныя прытокі Дняпра. Гэтае спрыяе больш рацыянальнай і плянамернай рабоце па правядзеньню мэліорацыі ў дзяржаўным разьмеры і разгортвае шырэйшыя для яе пэрспэктывы.

Зямлябудаўніцтва ў Беларусі і Гомельшчыне павінна ісьці па аднаму кірунку, паколькі самая пабудова гаспадаркі ў бок жывёлаводзтва зьяўляецца аднолькавай.

Цяпер далейшыя нашы задачы зводзяцца да таго, каб, пашыраючы прамысловасьць, мы таксама думалі і аб тым, каб забясьпечыць гэту прамысловасьць рухаючымі сіламі. Гомельская прамысловасьць ужо і ў мінулыя гады не абыходзілася сваімі запасамі дрэўнага апалу, а карысталася апалам, прывозячы яго з Беларусі. Але ў Беларусі мы маем шмат акруг, якія ня маюць апалу, як, напрыклад: Менская, Віцебская, частка Аршанскай. Яны ня маюць у выстарчаючай колькасьці мясцовага апалу, але маюць большыя энэргетычныя рэсурсы, заложаныя ў нашых тарфяніках. Пераапрацоўка гэтай нявыкарыстанай энэргіі зьяўляецца нашай галоўнейшай задачай.

Тым фактам, што вызначана і ў будучым годзе будзе пачата пабудова Асінаўскай раённай электрастанцыі, пакладзен вялікі пачатак у рэконструкцыю народнай гаспадаркі Беларусі. Можа быць, праз год, а можа і раней паўстане пытаньне аб тым, каб вызначыць пабудову другой электрастанцыі для таго, каб электрыфікаваць прамысловасьць і ў іншых акругах, даць тэмп разьвіцьця гаспадаркі і ў іншых акругах.

Далей, перад намі стаіць задача аб палепшаньні шляхоў зносін. Мы ведаем, што наша шляхавае будаўніцтва значна вырасла, асабліва мясцовае шляхавае будаўніцтва. Мы за гэты год паправі́лі ўсе масты, якія былі спалены рознымі окупантамі Беларусі. Але палепшаньне шляхавага будаўніцтва яшчэ ня скончана, а толькі пачынаецца. Тыя асыгнаваньні, якія мы маем па мясцовым бюджэце Беларусі (я ня ведаю, якія асыгнаваньні мае па мясцовым бюджэце Гомельскі і Рэчыцкі паветы), у суме каля 2.000.000 руб. на шляхавае будаўніцтва, дае вялікую базу для таго, каб пашыраць у далейшым працу па палепшаньні шляхоў зносін. Але гэтым справа яшчэ не канчаецца. Пабудова шляхоў рознага тыпу каштуе вельмі дорага. Чыгункі нашы разьмяркованы вельмі густа, гусьцей, нават, чым у многіх іншых раёнах Саюзу, і для далейшага экономічнага разьвіцьця нам трэба прывесьці ў парадак нашу рэчную сыстэму. Неабходна аб'яднаць верхнюю плынь Дняпра і яго прытокаў Бярэзіны, Сожу і Прыпяці дзеля стварэньня аднае воднае артэрыі. Да гэтага часу мы ня маем воднага транспорту. Ходзяць маленкія параходзікі, але значнага ўдзелу ў народнай гаспадарцы гэты транспорт ня прымае, таму што ўся рэчная сыстэма запушчана, яе трэба прывесьці ў парадак.

Водны транспорт набывае ня толькі беларускае, але і саюзнае значэньне. На гэта трэба зьвярнуць вялікую ўвагу, таму што гэта будзе мець вялікае значэньне і для мэліорацыі Беларусі і для гандлёвае сувязі БССР.

Цяпер у далейшым я ня буду спыняцца на другіх задачах. Задачы гэтыя: разьвіцьцё нашае прамысловасьці і ўвязка прамысловасьці з сельскай гаспадаркай Беларусі. Далучэньне Гомелю і Рэчыцы да Беларусі стварыла закончаную гаспадарчую організацыю. Тыя пляны, якія мы пабудавалі да гэтага часу, якія мы пабудавалі з вялікай напружнасьцю нашых сіл і энэргіі, гэтыя пляны павінны быць пашыраны і ажыцьцёўлены. Вызначаныя пэрспэктывы—5-ці гадовыя пляны па сельскай гаспадарцы, па кватэрным будаўніцтве,—яны павінны быць разгорнуты і на Гомель і на Рэчыцу, каб з гэтага году і Гомель і Рэчыца былі ўключаны ва ўсе нашыя пляны, якія потым увязваюцца з агульнымі плянамі Саюзу.

Гэта далучэньне Гомельскай і Рэчыцкай акруг да Беларусі ніякае небясьпекі ў сэнсе гаспадарчага разьвіцьця не павінны выклікаць у гомельскіх таварышоў, таму што тыя самыя задачы, якія стаялі перад РСФСР адносна Гомелю і Рэчыцы, стаяць і перад БССР.

Тав. Гэльтман.—Учора на вячэрнім пасяджэньні мы заслухалі паведамленьне старшыні Савету Народных Камісараў тав. Адамовіча аб далучэньні да Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі Гомельскага і Рэчыцкага паветаў са складу РСФСР. Гэты факт, які мае для нас буйнае нацыянальнае і экономічнае значэньне, мы павінны ацаніць належным чынам, як яшчэ адзін довад, што савецкая ўлада, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі, мірна вырашае складаныя пытаньні нацыянальна-тэрыторыяльнага характару. Ва ўсіх краінах, дзе ва ўлады стаяць заможныя клясы, пытаньні тэрыторыі, пытаньні зьмены яе межаў выклікаюць вялізарныя загострываньні, зьяўляюцца каменем перашкоды, які можа быць ухілены толькі пры дапамозе крывавых войнаў, шляхам вайсковых сутычак. Разумеецца, вырашэньне такім шляхам гэтых пытаньняў або непасрэдна вайной, або пад яе непасрэднай пагрозай выклікае абурэньне. Тэрыторыяльныя зьмены не выклікаюцца прыродна-экономічнымі прычынамі і ня лічацца з воляю і пажаданьнем насельніцтва. Гэтае пытаньне разьвязваецца кучкай эксплёататараў, якія яго вырашаюць у імя сваіх клясавых групавых інтарэсаў, прычым масу насельніцтва даводзяць да яшчэ горшага стану. Ня дзіва, дзеля гэтага, што наш спосаб вырашэньня нацыянальна-тэрыторыяльных пытаньняў ня можа падабацца нашым клясавым ворагам, таму што ён паказвае новы шлях, шлях, ідучы па якому можна разьвязаць гэтае вельмі складанае пытаньне мірным спосабам. Але гэтыя клясы разумеюць добра, што шлях гэты магчымы толькі для тых, якія рашуча парвалі з усім старым і якія зьмянілі ў аснове экономічны і палітычны лад; інакш кажучы, гэты шлях магчымы пры існаваньні савецкай улады, пры зьніштажэньні ўлады абшарнікаў і капіталістых, пры тэй умове, калі на чале краіны стаіць рабочая кляса, якая знаходзіцца пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі.

Гэтую ісьціну дасканала разумеюць заможныя клясы, і яны баяцца, што гэтую ісьціну хутка зразумеюць і ўсе працоўныя рабочыя і сяляне іхных краін. Дзеля гэтага кожнае дасягненьне тутака ў нас, у СССР, у паасобку—БССР, у якой-бы то ні было галіне выклікае ў капіталістычным сьвеце шалёнае абурэньне, штурхае думку на неабходнасьць як мага хутчэй пакончыць з намі, пакончыць з тэй краінай, якая адным сваім існаваньнем дае надзею працоўным масам усяго сьвету, паказваючы ім выхад з гэтага страшэннага становішча, у якім яны знаходзяцца, выхад з таго тупіку, у які зайшоў увесь капіталістычны сьвет. Аб тым, што буржуазія Заходняй Эўропы ўсур'ёз бярэцца за падрыхтоўку да канчатковае расправы з імі, сьведчаць шмат-

лікія факты з політычнага жыцьця Заходнае Эўропы. Асабліва за апошнія месяцы, прычым ні для каго не зьяўляецца сакрэтам, што зачыншчыкам у гэтай барацьбе проці нас зьяўляецца Англія, Англія—магутнасьць якой захвалявалася, Англія, якая жыве за кошт колёній і поўколёній, якія пачынаюць высьлізгаць з яе рук, Англія, у якой соцыяльныя стасункі ў апошні час асабліва моцна загастрыліся.

Ня хто іншы, а іменна Англія павінна стаць натхніцелем арганізатарам і кіраўніком усіх рэакцыйных сіл, накіраваных проці нас. Гэтая роля Англіі зразумелая. Але таксама зразумелае для нас і тое, што зьдзейсьніць свае намеры Англія сама ня можа, ня можа гэтага зрабіць і па свайму географічнаму палажэньню, і таму, што ёй ня ўдасца кінуць свае рабочыя масы на непасрэдны выступ проці нас. Разумеецца, куды зручней заграбаць жар чужымі рукамі. Адсюль шалёная праца па ўтварэньню коаліцыі проці нас, адсюль уцягваньне ў коаліцыю пагранічных з намі Заходніх дзяржаў, у першую чаргу Польшчы.

Адсюль імкненьне абкружыць нас кальцом, а дакладней кажучы, поўкальцом дзяржаў, якія ідуць супольна пад кіраўніцтвам Англіі, згодна яе паказкі.

Вось асноўная думка політыкаў ангельскай буржуазіі з Чэмбэрленам на чале.

Але на шляху зьдзейсьненьня гэтай сваёй ідэі Англія натыкаецца на цэлы шэраг перашкод, што вынікаюць з тых супярэчнасьцяй, якія існуюць паміж асобнымі дзяржавамі, між асобнымі групамі капіталістых,—хоць-бы ўзяць, напрыклад, тыя супярэчнасьці, якія існуюць паміж Польшчай і Нямеччынай.

Аднак, як мы бачым, упарта, паступова, крок за крокам Англіі ўдаецца перамагаць гэтыя цяжкасьці і ісьці да вызначанай мэты. Зразумела, гэта не абазначае, што ёй удасца канчаткова перамагчы гэтыя цяжкасьці, усе гэтыя перашкоды, што ёй удасца сапраўды ўтварыць моцны блёк супроць нас. Такой перакананасьці ў нас няма, але ёсьць значная доля магчымасьці, і таму існуе небясьпека, што мы будзем пастаўлены ва ўмовы неабходнасьці абараняцца, што мы будзем уцягнуты ў вайну, нам навязаную, супроць нашага найвялікшага жаданьня міру, якое мы адчуваем і аб якім ведае ўвесь сьвет.

Пад такім пунктам погляду нам трэба разглядаць усё тое, што робіцца ў нашых заходніх суседзяй, у прыватнасьці, у Польшчы, як у самай моцнай з тых дзяржаў, што павінны быць кінуты супроць нас.

Вы ведаеце з газэт (учора на Сэсіі аб гэтым таксама гаварылі), што ў Польшчы на днях мелі месца цэлы шэраг вобыскаў і арыштаў, якія па сваёй велічыні перавышаюць усё тое, што было да гэтага часу ў Польшчы. Сярод арыштаваных знаходзяцца тры беларускія дэпутаты польскага Сойму, члены Беларускай Грамады—Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі і Валошын.

Усе яны, як відно з газэт, арыштаваны па абвінавачаньні ў дзейнасьці, накіраванай супроць існуючага ў Польшчы ладу і супроць адзінства Польскай дзяржавы; іначай кажучы, яны абвінавачваюцца ў дзяржаўнай здрадзе. Такое абвінавачаньне ў польскіх умовах не зьяўляецца нечым асаблівым. Дзеля гэтага нам важна не само абвінавачаньне, а важны тыя акалічнасьці, пры якіх гэты арышт адбыўся. Важны той факт, што арышт быў зроблены без дазволу Сойму, што зьяўляецца першым фактам, нават, у Польшчы, гэтай краіне лютага тэрору. Гэта сьведчыць аб тым, што фашыцкі ўрад Пілсудзкага ўсё больш яўна прыбягае да фашыцкіх мэтодаў. Гэта, зразумела, Пілсудзкаму даецца тым лягчэй, што большасьць Сойму, па сутнасьці, нічога ня мае супроць таго, каб быць толькі фіранкаю для ўраду, як

яго ў Польшчы называюць,—„урад моральнай санацыі“. Пілсудзкі ў свой час падкрэсьліваў, што ў польскіх умовах можна кіраваць і лепш усяго кіраваць толькі пры дапамозе бізуна. Пасьля майскага перавароту ўспамянуў, што ён казаў, што не хацеў-бы кіраваць пры дапамозе бізуна, але калі гэта будзе патрэбным, дык ён гэты сродак ужыве. Як бачыце, ён усё часьцей і часьцей пачынае ўжываць гэты сродак.

Тут, таварышы, для характарыстыкі настрояў польскіх, асабліва парляманцкіх колаў цікава падаць словы б. польскага прэм‘ера Вітоса, які нейк сказаў: „Мы не зьяўляемся больш парлямантам. Мы толькі робім выгляд, шта мы зьяўляемся парлямантам. З гэтай характарыстыкай польскага Сойму мы можам, таварышы, згадзіцца.

„Работнік“—орган соцыял-здраднікаў ППС, абмяжоўваючыся паданьнем без тлумачэньняў зьвестак аб арышце і вобыску, друкуе 21-ы арт. польскай констытуцыі, згодна якому дэпутаты, злоўленыя з полічным, могуць быць затрыманы, але судовая ўлада абавязана запытаць маршалка Сойму аб дазволе на арышт гэтых дэпутатаў. Што-ж мы бачым? Мы бачым, што судовая ўлада і міністар юстыцыі Мэйшутовіч ня пытае дазволу на арышт, і толькі тады, калі маршалак Сойму Ратай зьвярнуўся з лістам да міністра юстыцыі з просьбаю выясьніць прычыны арышту 3-х дэпутатаў Сойму, міністар юстыцыі дае адказ, у якім коратка паведамляе аб гэтых прычынах і абяцае ў бліжэйшы час падаць уматываваную просьбу аб дазволе на арышт. Адным словам, таварышы, міністар па сутнасьці ня выпаўніў вымаганьняў констытуцыі, а пан маршалак зусім на гэта не рэагуе, задавальняючыся дадзенымі яму абяцанкамі. Праўда, і пан маршалак, і пан міністар мелі асабістую гутарку. Зьмест гэтае гутаркі нам невядомы, але я думаю, што яна для ўсіх нас зусім зразумелая.

Яшчэ болей цікавы абставіны арышту. Той-жа самы выслужлівы „Работнік“—орган ППС, прыкідваючыся дурнем і зьмяшчаючы паведамленьне аб прычынах арышту і вобыску, дае наступны загаловак: „Сэнсацыйныя чуткі аб прычынах арышту“; ён гэтым стараецца давесьці, што грамадзкая думка, і ў першую чаргу грамадзкая думка рабочае клясы, якую ён нібы прадстаўляе, нічога ня ведала і нічога не падазравала—і вось табе што здарылася. Гэта заява робіцца тады, калі падаюцца ўрадавыя паведамленьні і ліст Мэйштовіча да Ратая, дзе падрабязна гаворыцца, што арышт трох дэпутатаў адбыўся таму, што яны былі злоўлены з полічным на факце выпаўненьня злачыннае дзейнасьці, накіраванай супроць бясьпечнасьці і цэльнасьці дзяржавы, дзейнасьці, кіраванае і правадзімае пабочнымі фактарамі,, за грошы, якія ідуць з заграніцы. Ясна, што каму-каму, а „Работніку“, органу ППС, не прыходзіцца гаварыць, што ён ня ведаў таго, што робіцца ў партыях рабочае клясы і сялянства. Гэта сьведчыць аб тым, што „Работнік“, як орган ППС, і наогул уся ППС ня зробяць ніякіх захадаў для таго, каб у гэтую справу ўмяшацца і абараніць правы недатыкальнасьці дэпутатаў. Значна больш шчырым зьяўляецца „Кур‘ер Поранны“. Ён у № ад 16 студзеня б. г. дае падрабязнае апісаньне арыштаў, прычым, як гэта належыць, паўофіцыозу, усё паведамленьне носіць адбітак поліцэйскае кухні, дзе яна згатавана, а таму і характарызуе настроі офіцыйных колаў Польшчы. У гэтым паведамленьні „Беларуская Грамада“ характарызуецца, як партыя комунізуючая, якая разам з Комуністычнай партыяй ў Польшчы і Заходняй Беларусі, а таксама „Незалежнай Сялянскай партыяй“, абвінавачваецца ў антыдзяржаўнай дзейнасьці, выконваемай па даручэньні Масквы і Менску за нашы, таварышы, з вамі грошы. Там аб гэтым гавораць адкрыта.

Там гаворыцца, што з прычыны таго, што Комуністычная партыя зьяўляецца нелегальнай, яна быццам вяла сваю работу праз легальную „Беларускую Грамаду“, якая, дарэчы кажучы, польскімі поліцэйскімі коламі і „Кур‘ерам Поранным“ акрэсьлена ў 40.000 чалавек. Паколькі мы тут можам разважаць, гэтыя лічбы не перавышаны.

Гэтыя члены „Беларускае Грамады“ аб‘яднаны ў гурткі, быццам маюць свой банк у Вільні з аддзяленьнем у Глыбокім і Пінску. Раз гэтак пастаўлена пытаньне, дык ясная справа, што польская поліцыя пры вобыску павінна была „знайсьці цэлы шэраг дакумантаў і ня толькі абежнікаў Цэнтральнага Камітэту Комуністычнай партыі і Комінтэрну, але нават інструкцыі з падрабязным зазначэньнем, як трэба абараняцца, што трэба гаварыць у выпадку арышту. У гэтай інструкцыі нібы-та, нават, паказаны лічбы, колькі трэба плаціць абаронцам, якія будуць абараняць арыштаваных. Гаворыцца проста, трэба плаціць па 200 злотых, інакш кажучы, па 80 руб. у дзень, калі лічыць па нормальнаму курсу, але дзеля таго, што апашні час злоты стаіць ня зусім цьвёрда—ён удвая танейшы—значыць, па 40 руб. у дзень. Як бачыце пэнсія добрая. Усё гэта паказвае, што ўсё добра прадбачана. Праўда, гэта нагадвае вядомыя ўсім нам „Лісты Зіноўева“ альбо сфабрыкаваныя ў апошні час у Нямеччыне „савецкія гранаты“, якія мы нібыта вырабляем і пасылаем ў Нямеччыну. Гэта работа аднаго тыпу. Наіўнасьць людзкая не абмяжована, асабліва ўсялякай абывацельшчыны, сярод якой неабходна стварыць адпаведныя думкі і настроі. Адным словам, у ход пушчана ўсё, каб утварыць умовы, якія дазволілі-б раздушыць, зьнішчыць Комуністычную партыю Польшчы, Комуністычную партыю Заходняй Беларусі, Незалежную Сялянскую партыю і Беларускую Грамаду, якія хоць вельмі разыходзяцца і па сваёй тактыцы, і па сваіх мэтах, але ўсе яны зьяўляюцца організуючымі цэнтрамі ўсіх нездаволеных сучаснымі ўмовамі ў Польшчы.

Кампанія разгорнута ва ўсю шырыню. Вось некалькі даных. Згодна таго-ж „Кур‘ера Пораннага“, які мае добрыя зьвесткі з Заходняй Беларусі, у працягу аднэй ночы з 14-га на 15-га студзеня зроблена 125 арыштаў і 200 вобыскаў. У асобных мясцовасьцях арыштавана: у Вільні—15 чалавек, у Горадні—12, у Бельскім павеце—23, у Сакольскім—5, Воўкавыскім—3, Беластоку—8, Ашмянскім—12, Дзісьненскім—6, Навагрудзкім—10, Слоніме—11, Пінску—6. Арыштаваны дырэктары беларускага банку ў Вільні, Пінску і Глыбокім.

Паводле другіх зьвестак, якія зьмешчаны сёньня ў іншых газэтах, гаворыцца аб яшчэ большай колькасьці: у Беластоку арыштавана 90 чалавек, у Віленскім і Навагрудзкім ваяводзтвах—да 200 чалавек. Але гэта яшчэ ня ўсё: вядуцца арышты і вобыскі ў Варшаве. У Варшаве зроблена 200 вобыскаў і арыштована 80 чалавек, паводле апошніх зьвестак,—120 чал., ёсьць арышты ў Пазнані. У Сельцах вельмі цікавы факт: зроблены арышты сярод салдат мясцовага гарнізону за пашырэньне нэлегальнай літаратуры. Ёсьць арышты і сярод членаў управы больнічнай касы. Вы ведаеце, што пры выбарах у больнічную касу ў Варшаве перамагла рабочая лявіца, якая не да смаку ні ўраду ні соцыял-дэмократ-зраднікам з ППС. Вось сярод іх і робяцца арышты. Трэба сказаць, што нядаўна на гэтых днёх у горадзе Прушнове адбыліся выбары ў больнічную касу, і цікавая зьява: пры ўдзеле 75 проц. абіральнікаў большасьць атрымала рабочая лявіца: на 24 члены яна атрымала 11 месц, тымчасам як ППС-аўцы—4, а Пілсудчыкі толькі 1 месца. Гэта—характэрна і сьведчыць, чаму такі напор, чаму цяпер ліквідуюцца ўсе організацыі, якія зьяўляюцца сапраўды рэволюцыйнымі. Сярод арыштаваных ёсьць беларусы і палякі і яўрэі. Сярод арышта-

ваных, паколькі можна ўмеркаваць па газэтах, ёсьць члены ўсіх трох гэтых партый, але многа і беспартыйных і ня меўшых ніякага дачыненьня да ўсіх гэтых організацый. ППС ёсьць цяпер плынь левага напрамку, і вось сярод гэтых левых ППС-аўцаў таксама зроблены арышты; праўда, іх цяпер як быццам вызваляюць.

Як бачыце, таварышы, кампанія шырока разгорнута, і мэта яе для нас зусім зразумела,—стварыць уражаньне таго, што Беларуская Грамада зьяўляецца легальным аддзяленьнем Комуністычнай партыі і яе, як такую, трэба разграміць і ее легальнасьць зьнішчыць. Блытаючы самым бязбожным чынам і „грамадзян" і „незалежнікаў" з комуністымі, лягчэй усяго супроць іх абурыць грамадзкую думку, лягчэй вытлумачыць такі хуткі рост Грамады і яе ўплыў сярод беларускага сялянства; лягчэй выпраўдаць той жудасны тэрор, які пануе ў Польшчы.

Рост Комуністычнай партыі, хуткі рост Грамады, вядомая справа, не пад густ польскаму пану і буржуазіі; ён зьяўляецца аднэй з сур'ёзных перашкод выступленьню супроць нас.

Трэба-ж забясьпечыць сабе тыл, трэба разграміць усе гэтыя рэволюцыйныя організацыі.

Для ўсіх тых, хто сочыць за політычным жыцьцём Польшчы, хто сочыць за польскімі газэтамі, масавыя рэпрэсіі, якія маюць месца цяпер, не зьяўляюцца чымсьці нечаканым. Кампанія супроць Беларускай Грамады разгарнулася, ужо даўна ішла падрыхтоўка грамадзкай думкі. Дазвольце прывесьці вам некалькі цытат з польскіх газэт:

„Виленское Слово"—газэта монархістых—у № 303 ад 3-га сьнежня ў артыкуле пад назваю: „БССР и Громада" піша наступнае:

„Нам ня страшна беларускасьць Грамады з тэй прычыны, што гэтай беларускасьці вельмі мала; небясьпека заключаецца ў тым, што кожны гуртковец зьяўляецца агентам Саветаў. Сродкі барацьбы ў адносінах да дзейнасьці Грамады не павінны ні ў чым адрозьнівацца ад тых спосабаў, якія ўжываюцца ў барацьбе з комунізмам. Гэтыя сродкі павінны быць радыкальнымі і рашучымі. Гэты нарыў на дзяржаўным організьме ўжо даўно пасьпеў і павінен быць ускрыты. Адклад опэрацыі можа мець пасьледзтвы, аб якіх мы пасьля будзем горка шкадаваць".

Гаворачы да рэчы, у тым-жа самым артыкуле гаворыцца, што Грамада ідзе пад камандай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР.

Мы з вамі, таварышы, зусім не чакалі, што на Захадзе маем такую дужую організацыю (сьмех), і я-б гатовы прапанаваць вам ставіць у чаргу дня адпаведны пункт аб тым, як кіраваць гэтай організацыяй.

Цікавы перадавы артыкул у „Кур'еры Віленскім" (№ 298 ад 28 сьнежня) пад цікавай назвай „Тэрыторыя, якая гарыць". Вось што ў ёй пішуць:

### Тэрыторыя, якая гарыць.

Адусюль, а ў асаблівасьці з Усходу мы абкружаны тэрыторыямі, якія гарэць. Карыстаючыся такім азначэньнем, мы далёка ад якога-небудзь пераўвялічэньня. Нацыянальны беларускі рух злучыўся ў нас органічна з рухам, накіраваным да грамадзянскага перавароту. Організацыя, якая кіруе беларускім рухам, знаходзіцца ў шчыльнай сувязі з уладыкамі III-га Інтэрнацыяналу.

Протыцыруем тут ліст, які мы, сярод іншых многіх падобных лістоў, атрымалі ад аднаго з нашых прыяцеляў нашай газэты, які знаходзіцца поблізу з Савецкай граніцай:

„Беларускі рух ахапіў усіх без выключэньня праваслаўных беларусаў. Нават дзеці і жанчыны запісваюцца ў гурткі, чакаючы вясны і знаку да ўзброенага выступленьня. Збор зброі ідзе поўным ходам, на поўную пару, на выпадак перавароту ўжо назначана адміністрацыйная ўлада...“

Мы ня хочам уходзіць у абмеркаваньне таго, ці ёсьць сапраўды тэхнічнае падрыхтаваньне да паўстаньня і ці не зьяўляюцца зьвесткі аб сыстымовым зборы зброі і організацыі рэволюцыйнай улады—пладом легенды. Апошняя магла лёгка зьявіцца дзякуючы вялікаму абурэньню сярод мас. Пацьвярджэньне і высьсненьне ўсяго гэтага нас не датычыць. Ва ўсякім выпадку ліст нашага інформатара, бязумоўна, дакладна адбівае настрой беларускай вёскі. Між тым, Варшава як быццам гэтага настрою ня бачыць“.

„Виленское Слово“ ў № 228 ад 11-га сьнежня зьмяшчае артыкул: „Конкурэнт Літвы на Вільню“. Хто зьяўляецца конкурэнтам з Літвой—не здагадаецеся. Гэтым конкурэнтам зьяўляемся мы з вамі (с ь м е х). У гэтым артыкуле „Слово“ піша: „Агітацыя шырыцца і ўзмацняецца. Гурткі Беларускай Грамады, якіх субсыдуе Комінтэрн, плодзяцца на Віленскай тэрыторыі“.

У № 284 ад 12-га сьнежня ў артыкуле „Пропаганда ў масе“ гаворыцца: „Усім-жа вядома, што Грамада зьяўляецца, на жаль, легальнай бальшавіцкай экспозытурай на тэрыторыі ўсходніх ваяводзтваў“. Бачыце, таварышы, як грунтоўна йшла падрыхтоўка.

У гэтым самым „Виленском Слове“ (№ 302 ад 30-га сьнежня) зьмешчана наступная корэспондэнцыя, як відаць са зьместу, польскага памешчыка з крэсаў. У гэтым артыкуле пад загалоўкам: „Наблюдение в деревне“ пішацца:

„Цяпер ціхай і спакойнай вёскай аўладаў якісьці масавы псыхоз. Людзі кідаюць працу і выконваюць часткова, дый то неахвотна, свае штодзенныя заняткі. Усюды пануе якаясьці напруджаная нэрвовая атмосфэра, чаканьне якіхсьці вялікіх карэнных перамен у дзяржаўным і грамадзкім жыцьці. Зьмены гэтыя павінны быццам наступіць у скорасьці, амаль што ня заўтра. Ніхто нічога толкам яшчэ ня ведае, але ўсе адчуваюць, што нешта павінна быць. Адны прадвяшчаюць бальшавізм, другія Беларускую рабоча-сялянскую рэспубліку са сваёй міліцыяй, арміяй, фінансамі і з падзелам усёй гарадзкой і сельскай нерухомасьці. Настрой гэты з дня на дзень узрастае.

Прыходзіць да мяне якісьці стары паважаны селянін, якому я запрадаў зямельны вучастак у маім фальварку, і просіць аб прысьпешаньні сьцьвярджэньня акту куплі ў зямельнай управе: „з тэй прычыны, што калі вясною вёска будзе дзяліць ваш панскі маёнтак, то можа прапасьці і мая зямля“.

Гаворыць ён аб гэтым зусім спакойна, як аб факце нямінучым і зусім натуральным. Другі селянін расказваў мне, што калі надыйдзе „перамена“, то аднаго з паліцыянтаў і настаўніка з суседняй вёскі пакінуць, бо гэта сумленныя людзі“.

Гэты селянін усё-ж ткі не перакананы, ці атрымае ён зямлю, і таму яму лепш мець купчую ў кішэні. Бачыце, таварышы, пра што думаюць сяляне, пра што гавораць між сабою.

Далей, таварышы, у гэтай самай корэспондэнцыі ёсьць вельмі цікавы адрывак.

„Адзін з маіх знаёмых знайшоў адзін раз у кірмашны дзень—па дарозе з мястэчка ў маёнтак—свайго пана солтыса (солтыс—вясковы стараста. Увага перакладчыка), які быў вельмі п‘яны і валяўся у лужыне. Маючы пачуцьцё павагі да ўлады і добрасуседзкасьці, узяў яго

мой знаёмы да сябе ў брычку. Калі брычка кранулася далей і задрыгацела па ўхабах, солтыс прачухаўся. Што ў п'янага на сэрцы, то і на языку, кажа прыказка. Згодна гэтай прыказкі солтыс пачаў расказываць майму знаёмаму, як гэта яны выганяць палякаў са свайго краю, як яны, навучаныя ўжо вопытам, для таго, каб паны больш не вярнуліся,—будуць паліць маёнткі і выдушываць самых памешчыкаў. „Ну добра,—спытаўся тады мой сусед,—а як-жа будзе са мною?". „Вас,—адказаў пераконваючы селянін,—мы не зарэжам з тэй прычыны, што вы добра сумленны пан, вось, напрыклад, і мяне падвезьлі"; пасьля праз мінуту, задумаўшыся, гэты селянін дабаўляе: „Вось калі ўжо толькі інакш нельга будзе".

Вядомая справа, таварышы, што пры такіх настроях польская ўлада—памешчыкі, буржуазія—ня могуць адносіцца да гэтага сусім спакойна. Яны гэта зьвязваюць з рэволюцыяй у нас, на што маем увагі ў гэтай самай корэспондэнцыі.

Быў я ў вёсцы ў Меншчыне ў той час, калі там пачыналася і расла Расійская камуністычная рэволюцыя. Усё там рабілася і адбывалася па тых-жа мэтодах і згодна тых-жа самых рэцэптаў, што і ў нас сёньня.

У польскай грамадзкасьці ўкаранілася якоесьці дзіўнае пераконаньне, што гаварыць аб аграмаднай небясьпецы, аб зруйнавальнай рабоце, якая праводзіцца на нашых вачох,—нельга з тэй прычыны, што гэта нялоўка і будзе адзнакаю адсутнасьці сьмеласьці. Над гэтым пытаньнем, закранутым як-небудзь сарамліва, пераходзяць да чаргі дню. Гэтую небясьпеку для дзяржавы і грамадзкага ладу таксама не дацэньвае і наша ўлада.

Яны ня бачаць і не сачаць за тым, што ў аграмаднай часьці нашай краіны пачынаецца масавы пажар, пажар гэты альбо можа заўтра праглынуць усе крэсы, альбо тушыць яго прыдзецца ручаямі нявіннай крыві.

Я зьяўляюся адным з тых, якія наглядаюць павялічваючаеся праяўленьне гэтага пажару не з-за пісьмовага стала, закіданага кіпамі абежнікаў у якім-небудзь вялікім ці малым павятовым ці ваяводзкім горадзе,—а ў самай крыніцы гэтага пажару, у штодзённым жыцьці".

Вось, таварышы, характарыстыка, якую польскія газэты даюць настроям, што ёсьць у Заходняй Беларусі, даюць людзі, якія да ўсяго гэтага прыглядаюцца і якія гэтыя настроі ўмеюць, шчыра кажучы, ацэньваць.

Вядомая справа, што, так ставячы пытаньне аб узмацненьні камуністычнага ўплыву ў Заходняй Беларусі, нельга абыйсьці моўчкі і пытаньня формальных адносін да нас, тых умоў, якія рэгулююць адносіны паміж Польшчай і Савецкім Саюзам. Як Польшча глядзіць на Рыскую ўмову—відаць з перадавой у „Виленском Слове" (№ 298 ад 23-га сьнежня).

„Адным з фатальных вынікаў політычнае бяздарнасьці, недальнавіднасьці і вузасьці думкі—тварцоў Рыскага трактату—зьяўляецца гэтае палажэньне беларускага пытаньня.

Рыскі трактат зьяўляецца агульнай памылкай і што гэта не перамога, а ганебнае паражэньне".

З прычыны гэтага ў даны момант вырашыць беларускае пытаньне ў такой плоскасьці, каб задаволіць беларускія масы і адначасова не парушыць нашых уласных прыродных правоў—надзвычайна трудна.

А ў гэты самы час Саветам няма нічога лягчэйшага, як нам перашкаджаць у беларускім пытаньні і падтрымліваць бязупынна становішча непакою".

Паданая тут характарыстыка становішча Заходняй Беларусі ў вогуле правільная, мы з ёю можам згадзіцца. Вывады-ж—аўтономія.

Аўтономія—гэта адзін з тых лёзунгаў, якія ў даных конкрэтных польскіх умовах павінны зацямніць сьвядомасьць мас, павінны адцягнуць масы ад барацьбы, павінны іх супакоіць.

Тады, калі комуністычная партыя Польшчы кідае лёзунг права ўсіх нацыянальнасьцяй на самавызначэньне аж да аддзяленьня ад Польшчы, калі такі-ж самы лёзунг кідае Грамада,—тады, зразумела, нельга гаварыць, што нічога не дано, і таму ясна, што калі гавораць пра аўтономію, дык гэта ёсьць адцягваньне мас ад барацьбы.

На каго-ж разьлічаны гэты лёзунг? Ясная справа, што ніякая аўтономія ня дасьць селяніну зямлі, у якой ён мае патрэбу да таго часу, пакуль ва ўлады памешчыкі. Ну што-ж, я ім вельмі спачуваю. Мне здаецца, мы маглі-б іх пазбавіць ад гэтага клопату, калі-б яны згадзіліся адначасна запэўняць, што ня будзем мець і дзесятай часткі тых клопатаў, на якія скардзіцца „Слово". Але я баюся, што мая прапанова будзе прынята ў Польшчы, як провокацыя. Добра, што сёньня няма тут радыё-апарату і што мае словы ня трапяць непасрэдна ў Польшчу (с ь м е х).

Ня сьмейцеся, таварышы. Я вам прачытаю цытату з „Кур'ера Віленскага" (№ 99 ад 29 сьнежня), як там гавораць пра радыё.

„Ці пагражае Польшчы комунізм? Вось гэта пытаньне, якое ня раз ставілася ў нас у апошні час на старонках прэсы ўсіх напрамкаў.

Калі ў многіх мясцовасьцях можна канстатаваць рост комунізму, дык усё-ж сіла яго не дасягала такіх разьмераў, каб можна было сур'ёзна гаварыць аб комуністычнай небясьпецы.

Адгарадзіцца ад суседзяў калючым дротам ня добра, ды гэта мерапрыемства і не дасьць пажаданых вынікаў.

Возьмем наступны невялікі прыклад. У даны момант у вёсках зьявіліся апараты радыё. У многіх валасьцёх такіх апаратаў ёсьць па некалькі штук. Разьвіцьцё ў гэтым кірунку пойдзе вельмі шпарка.

Савецкая Расія пры дапамозе радыё вядзе пропаганду ў большым маштабе. А мы?"

Як бачыце, радыё мае значэньне.

Як бачыце з усіх гэтых паданых прыкладаў і водзываў, да сучасных рэпрэсій вялася досыць доўгая падрыхтоўка. Аднак, рэпрэсіі ня вычэрпваюць пытаньня. Тут пытаньне ідзе значна глыбей.

Хоць і гаворыцца аб комуністычнай небясьпецы, аб працы за грошы Комінтэрну, аднак-ж нельга ашукваць, саміх сябе, і вось у польскай газэце „Кур'ер Віленскі" (№ 8 ад 12 студзеня) знаходзім цікавы артыкул над назвай: „Прычыны посьпеху грамады". У гэтым артыкуле гаворыцца наступнае:

„Сярод польскага грамадства ў провінцыі вельмі шырока абгавараецца дзейнасьць Грамады. Некаторыя лічаць Грамаду надзвычайна моцнай і жыцьцёвай організацыяй, здольнай падрэзаць у корані будучыну польскасьці на беларускіх землях. Другія сьцьвярджаюць, што гэты рух сэзонны, і што ён хутка заглухне, як хутка ён зьявіўся. Усе вінаваціць нікчэмных агітатараў, якія ўзбураюць цёмныя масы і так нахабна парушаюць салодкі спакой польскага крэсавага грамадзтва".

Зусім правільна, шкода толькі, што вывады робяцца звычайна другія.

Гэтыя нараканьні на агітатараў, на бальшавіцкія грошы і г. д. распаўсюджаны амаль усюды—як сярод грамадзтва, так і сярод адмі-

ністрацыі. Ніхто, аднак, ня хоча зразумець, што ні адзін моцны грамадзкі рух ня можа зьявіцца з прычыны толькі аднае пропаганды.

А вось і далей.

„Зусім зразумела, што добра організаваная агітацыя мае вялізнае значэньне, але яна не зьяўляецца асноўным фактарам.

Галоўнай умовай посьпеху Грамады зьяўляецца перш за ўсё адпаведны настрой, які стварыўся ў псыхіцы мас. Калі-б гэтага настрою ня было, дык нават пры вялізнай масе грошай і пры ўдзеле самых вялікіх талентаў у галіне красамоўя—прадастаўленых для пропаганды—зрабіць можна было-б усё вельмі мала“.

„Асноўным фактарам, які дапамагае посьпехам Грамадаўскае пропаганды, зьяўляецца нездавальненьне насельніцтва. Галоўнай прычынай гэтага нездавальненьня зьяўляецца ў сваю чаргу цяжкое экономічнае становішча. Наша вёска ў сучасны момант, у адносінах колькасьці інвэнтара і ўзроўня культурыс ельскае гаспадаркі, перанаселена.

Усё гэта дапамагае ўзьнікненьню ў нас пытаньня, над якім зараз мала хто задумваецца ў Польшчы—а іменна, пытаньня аб беспрацоўі ў вёсцы.

Перад вайной лішкі сельскага насельніцтва нашага краю заўсёды знаходзілі заработак у гарадох. Менск, Вільня, Дынабург (Дзьвінск), Лібава, Рыга і нават Пецярбург паглыналі лішкі нашых рабочых. У сучасны момант, з прычыны беспрацоўя ў гарадох і з прычыны наліччa пагранічных кардонаў, увесь гэты лішак не знаходзіць для сябе выхаду“.

„Пэўнага роду лякарствам у гэтых адносінах магло-б быць належнае правядзеньне парцэляцыі і зямлянадзяленьне малазямельных гаспадарак, у асаблівасьці на тэрыторыі з слабой гаспадаркай. Гэту зямельную політыку трэба-б было праводзіць з самага пачатку аднаўленьня незалежнасьці Польшчы. Аднак, політыка прадмайскіх урадаў пайшла зусім іншым шляхам.

Пачалося нязвычайна шпаркае надзяленьне зямлёй вайсковых асаднікаў за кошт зямель, прызначаных для правядзеньня зямельнае рэформы.

Памыляецца, аднак, той, хто думае, што досыць будзе ў даным выпадку гаспадарчага перабудаваньня. Другім фактарам, выклікаючым супроцьдзяржаўныя настроі сярод насельніцтва нашае краіны, зьяўляецца адміністрацыя.

Сярод адміністрацыі існуюць варожыя адносіны да мясцовага няпольскага насельніцтва. На кожным кроку нават самыя нявінныя беларускія або літоўскія пачаткі наша адміністрацыя прасьледуе ў той ці іншай меры грубымі прыёмамі. Такія варожыя адносіны адміністрацыі, асабліва школьнай, цалком захопленай баявымі і організаванымі эндэцкімі элемэнтамі, насельніцтва вельмі добра разумее і за прыгожае адказвае прыгожым“.

Зразумела, тут пытаньне групавое барацьбы між групай Пілсудзкага і групай ранейшага ўраду—эндэкаў, якія абвінавачваюць адзін аднаго. Але нам гэта няважна, нам важна тое, што яны самі ў больш мяккіх выразах гавораць пра варожыя адносіны адміністрацыі, асабліва школьнай, гавораць пра тое, што мы азначаем, як самыя подлыя і бессаромныя адносіны да ўсіх няпольскіх нацыянальнасьцяй, якія жывуць у Польшчы.

„Такім чынам, проблема палепшаньня адміністрацыі і палепшаньня ў жыцьці нашае зямлі зьяўляецца другім, па парадку, надзвычайна важным пытаньнем. Тут, аднак, звычайныя міністэрскія мерапрыемствы, або частковыя пэрсональныя зьмены не памогуць. Барацьба

з насельніцтвам і прычэпкі да яго сталі ў нас ужо сыстэмай, якая ўвайшла ў кроў нашых адміністратараў. Зьмяніць гэта становішча могуць толькі рашучыя і радыкальныя зьмены. Такой зьменай павінна быць прадастаўленьне ўсходнім землям аўтономнага ўпарадкаваньня".

На каго гэта разьлічана—даюць адказ польскія газэты. У польскай газэце „Кур'ер Віленскі" (ад 28 сьнежня № 298) у тым-жа артыкуле—„Тэрыторыя, якая гарыць", які я чытаў, мы маем абзац:

„Калі беларускую інтэлігенцыю трымаюць далёка ад адміністрацыйнага апарату; калі сьвядомай часьці беларускага народу адмаўляюць у адчыненьні беларускіх школ і сыстэматычна зьнішчаюць тыя, якія яшчэ існуюць; калі беларуская нацыянальнасьць зьяўляецца самым горшым дакумантам пры атрыманьні зямлі, калі, урэшце, зямельная рэформа амаль ні на крок не пасоўваецца наперад, утвараецца сярод беларускіх мас, сярод беларускай інтэлігенцыі неспакойная атмосфэра становішча адчаю, які і прыводзіць да вынікаў, непрадугледжаных, мабыць, польскай уладай беларускі селянін, у якога псыхічным рухавіком—маторам—зьяўляецца пачуцьцё зямельнага *голаду*,—той селянін, пры пануючых у нас умовах, скарэй, ніж пры якіх іншых умовах, будзе на адной лініі з беларускім інтэлігентам у яго дзейнасьці па нацыянальнаму адраджэньню. Рух гэты накіроваи супроць нас, супроць Польшчы; кіруецца-ж ён Менскам і, часткова, Масквою.

Існуючае ў нас у гэтай галіне палажэньне прадстаўляецца ў наступным відзе: *для беларуса да позыцыйнай работы дарога ў нас зачынена, але затое, па міласьці польскай дзяржавы, даецца абмежаваная магчымасьць агітацыі.*

Такое становішча павінна існаваць у адваротным відзе. Паколькі так ня будзе—вынікі для польскай дзяржавы могуць быць фатальнымі".

Вось, таварышы, разьлік, стаўка на інтэлігенцыю. Ясная справа, што польская ўлада лічыць, што інтэлігенцыя, якая адарвана ад школ ды дзяржаўных пасад, зьяўляецца зачыншчыкам, фэрмэнтам, організатарам працоўных мас. Трэба адцягнуць гэтую інтэлігенцыю, кінуць ёй які-небудзь кавалак, даць ёй якую-небудзь падачку. Вось програма чыннасьці.

„Неабходна выпрацаваць дакладную програму ўраду па беларускаму пытаньню. Програма гэта павінна задаволіць нацыянальныя і грамадзкія патрэбы беларусаў. З выкананьнем такой програмы неабходна прысьпешыць, ня гледзячы на крыкі па гэтаму поваду з боку пэўных асоб, ні да чаго больш, апрача крыкаў, няздольных. Пры такім становішчы ў беларускім лягеры мы бязумоўна знойдзем прыяцелей Польскай дзяржавы, якія будуць працаваць над тым, каб беларускі рух накіраваць супроць Масквы, а ня супроць Варшавы, і масы беларускія пойдуць таксама ў гэтым напрамку за гэтымі беларусамі. Калі-ж гэта будзе дасягнута, тады можна будзе прыціснуць рэволюцыйныя моманты",—вось што гаворыцца ў гэтым-жа артыкуле (17).

„Адмаўленьне ў легальнасьці тым організацыям, якія вастрыё сваёй дзейнасьці накіроўваюць супроць дзяржавы, зьяўляецца неабходнасьцю". Я думаю, таварышы, што тут малюнак зусім ясны. Фашысцкі ўрад Польшчы, папершае, хоча зьнішчыць тую рэволюцыйную організацыю беларускіх рабочых і сялян, якая, хаця яна далёкая ад комунізму, але з прычыны таго, што зьяўляецца організацыяй сялян прыгнечаных у нацыянальным і соцыяльным стасунку, ня можа згаджацца з існуючымі ў Польшчы парадкамі і імкнецца да экономічнага і нацыянальнага вызваленьня, падругое, тым самым польскі ўрад хоча забясьпечыць сабе тыл на выпадак нападу на нас.

Дзеля таго, каб дасягнуць мэты і асабліва прыцягнуць да сябе сымпатыі дробнае буржуазіі ды інтэлігенцыі, імкнуцца стварыць уражаньне, што паміж Грамадой, а таксама незалежнай Сялянскай Партыяй і комуністымі няма розьніцы, што Грамада, як і компартыя Польшчы, нібы працуюць на грошы і па ўказцы Масквы.

Такім парадкам, усе пытаньні, напершае, пераносяцца з нацыянальнага грунту на грунт абароны бацькаўшчыны ад небясьпек з боку „чырвонага імпэрыялізму“. Падругое, падрыхтоўваецца грамадзкая думка да выступленьня супроць Савецкага Саюзу.

Нашы, таварышы, сымпатыі на баку сялян Заходняй Беларусі, на баку сялянства і рабочае клясы Польшчы. Большага мы з вамі зрабіць пакуль што ня можам, таму што мы вядзем і будзем весьці політыку міру. Але, таварышы, сымпатыі, выяўленыя колектыўна, маюць таксама свае дзеяньні. Няхай увесь сьвет, працоўныя ўсіх краёў ведаюць, што тады, калі адна палова народу мірна будуе сваю будучыну, разьвівае сваю культуру, другая стогне пад цяжэрным падвойным ігам нацыянальнага і клясавага прыгнечаньня. Сяляне Заходняе Беларусі не адны. За імі стаіць пролетарыят усёй Польшчы, за імі стаіць комуністычная партыя, якая організуе працоўныя масы для барацьбы за нізрынуцьце капіталістычнага ладу, за поўнае нацыянальнае роўнапраўе, за социялізм.

Мы верым, што пабеда за працоўнымі Польшчы, а тады, таварышы, без вайны, бяз грошай, бяз інструкцый Масквы дзьве часткі зруйнованага беларускага народу аб'яднаюцца ў адну цэлую Савецкую Социялістычную Беларускую Дзяржаву (бурныя воплескі). Пакуль што нам трэба працаваць без адпачынку. Нам трэба будаваць социялізм і ў далейшым правільна праводзіць нацыянальную політыку; і... таварышы, нам трэба не забываць і аб абароне, бо, як кажуць, „ня ровен час“, нас могуць прымусіць узяцца за зброю для абароны нашага існаваньня. Гэта, таварышы, будзе для нас цяжкім здарэньнем. Дазвольце мне закончыць словамі старшыні Рэвваенсавету т. Варашылава:

„Нас, рабочую клясу Савецкага Саюзу можа пацяшаць толькі адно: калі рабочая кляса акажацца няздольнай папярэдзіць бойню, і буржуазія з дапамогай социял-здраднікаў зноў уцягне яе ў вайну, дык у выніку гэтага, бязумоўна, да нашага Савецкага Саюзу далучыцца новая, а можа быць новыя Савецкія рэспублікі. Мы ў гэтым абсолютна ўпэўнены“ (воплескі).

Тав. Цыганкова: Я, таварышы, акурат учора ўважліва слухала даклад тов. Адамовіча аб далучэньні Гомельшчыны і Рэчыцы да нас. Мы, таварышы, таксама нядаўна сюды далучаны (Віцебская акруга). Мы і раней былі беларусамі, але чамусьці былі адлучаны ад Беларусі. Нас пабеларуску ня вучылі гаварыць, а ў царскі час амаль што забаранялі гаварыць пабеларуску. У нас цяпер усе школы працуюць на беларускай мове. Дарослыя таксама вывучаюць гэтую мову. Рабочым і сялянам—беларусам вельмі прыемна чуць тут сваю родную мову.

Я, таварышы, хачу спыніцца на тых дасягненьнях, якія мы маем з часу нашага далучэньня. Калі наш павет быў далучаны да БССР, усе фабрыкі і заводы былі ў поўзруйнованым стане. У прыватнасьці, на фабрыцы „Дзьвіна“, дзе я працую, былі зруйнаваны катлы, а тыя, якія дзейнічалі, дзейнічалі пры дрывяным апале. Цяпер мы ў мінулую восень перавялі нашы катлы на новую сыстэму, завялі апал торфам і вугалем. Гэта вялікае дасягненьне.

Далей, адчынілі новыя школы, па 4-5 школ на кожны сельсавет. Ёсьць таксама сямігодкі. Па сканчэньні раённае школы пераходзяць

у сямігодку, а далей—на рабфак. У стары час у нас была якаясьці царкоўная школа, па сканчэньні якое мы ўмелі толькі расьпісацца. Значыцца, з гэтага боку ў нас становішча грунтоўна зьмянілася. Калі рабочы мае даволі жаданьня, дык ён можа атрымаць вышэйшую адукацыю, як, напрыклад,—у нас рабочых ад станка накіравалі на рабфак.

Мы ўжо бачым, што мы спадзяемся сваіх таварышоў угледзець зусім іншымі, калі яны варочаюцца да нас. Некаторыя з іх ужо скончылі і працуюць на вёсцы. А калісьці ці было гэта магчыма,—разумеецца, не. Калісьці рабочыя на фабрыцы пішчэлі пад уціскам. Гэта сапраўднасьць, таму што я сама ўсё гэта пережыла, я сама—старая работніца. Мы бачым, як у нас працуюць на дзьве зьмены, а гэта—не малое дасягненьне. Раней працавала 700 чалавек, а цяпер—1.200. Маецца другая лёнаткацкая фабрыка, якая таксама працуе на дзьве зьмены. Гэта ўсё гаворыць аб тым, што паступова пазбываемся беспрацоўя. Цяпер будуецца фанэрны завод каля нашай фабрыкі. Скажэце, калі ласка, у Польшчы, Літве або Латвіі ці робіцца што-небудзь, каб палепшыць становішча рабочых і сялян, ці даецца магчымасьць сялянцы адчуваць, што яна мае права, аднолькавыя з мужчынамі. Скажэце, калі ласка, пры буржуазнай уладзе куды сялянка пойдзе жаліцца на мужа?—да папа! Там яна прыгнечана і церпіць пабоі, а ў нас ужо няма бойкі, хоць муж і прыходзіць выпіўшы, а біцца—выбачайце! (с ь м е х). Мы бачым, што мы разьвіваемся, што работніцы ўцягваюцца ў грамадзкую працу, дзеці ідуць у комсамольцы, піонэры знаходзяцца ў яслях і г. д. Усюды адчуваецца хатняя абстаноўка. Што, ці нойдзем мы на тое, каб нас перамагла калі-небудзь баржуазная ўлада?—Нічога падобнага! (в о п л е с к і). Ня толькі наша Чырвоная Армія пойдзе на абарону, ня толькі нашы дзеці, сыны і браты, нават мы—кабеты—будзем організоўвацца, каб пайсьці на абарону Беларусі (в о п л е с к і). Гэта гаворыць за тое, што кабета цяпер адчувае сябе ўсюды—і на сэсіі і на іншых мясцох—у пашане, яе шануюць. Ці-ж пойдзем мы пад уладу шаноўных паноў?—Не, ніколі! Мы ўжо цяпер—улада і не паддамося, мы будзем змагацца за тое, каб пролетарыят не стагнаў, як казалі таварышы, што выступалі, мы пойдзем насустрач і будзем вызваляць прыгнечаны пролетарыят (в о п л е с к і).

Т а в. І в а н ь к о в і ч: Тававышы, за мой кароткі побыт на VI сэсіі ЦВК Беларусі я многа слухала аб тым, што нам пагражае вайна з боку буржуазных дзяржаў. Я, сялянка, жывучы сярод шырокіх мас сялянства, ведаю, што сялянства не баіцца вайны дзеля таго, што яно гаворыць: калі буржуазія паднімецца на вас вайною, яна сама-ж сабе горай зробіць,—так кажа наша сялянства. Ня пойдуць-жа капіталістыя ваяваць, а пойдуць рабочыя і сяляне. Дык ці-ж гэтыя сяляне і рабочыя будуць страляць у нас? Яны будуць страляць у буржуазію, дзякуючы якой ім так цяжка жывецца, так што сялянства не баіцца вайны.

Як жывецца ў Савецкім Саюзе беднаце? Бедната добра адчувае, што Савецкі Саюз дае ёй дапамогу, землі абшарнікам. Ясна, што гэтыя людзі павінны абараняць Савецкі Саюз проці буржуазных дзяржаў.

У нас ільготы атрымлівае бядняк, часта і серадняк, і ў нас непараўнаўча лепей, чымся ў буржуазных дзяржавах. Хто атрымлівае льготы, хто скідкі, хто лесаматар'ял. Вялікая дапамога беднаце; яна адчувае, што Савецкая ўлада—самае моцнае падтрыманьне. Бедната звольнена ад падаткаў, таксама звольнены некаторыя серадняцкія гаспадаркі—больш слабыя. Пазычковыя таварыствы даюць дапамогу. Вось людзі і зразумелі, што ў Савецкім Саюзе жывецца вельмі добра ў сэнсе паляпшэньня жыцьця.

Наконт школ. У маім савеце ў 1924 годзе была адна школа, у 1925 годзе—2, а ў 1926 годзе—ужо 4. Гэта—вялікае дасягненьне.

Наконт нацыянальнасьці. Скажу, што ўсе нацыянальнасьці ў нас адчуваюць сябе добра. Ім даюцца аднолькавыя правы,—ня так, як у буржуазных странах.

Наконт перабежчыкаў з заграніцы. Сялене, калі сустракаюць перабежчыкаў, якіх вядуць арыштаванымі, дык гавораць ім: чаго вы да нас імкнецеся, вас усё роўна пашлюць назад, а яны гавораць: лепш застрэльце нас, але не адсылайце назад. Там толькі чакаюць мінуты, калі пачнецца вайна і дадуць ім аружжа ў рукі, тады яны хутчэй перамогуць буржуазію, якая іх так уціскае. Ні за што туды ня вернемся, (в о п л е с к і).

С т а р ш ы н я: Слова мае тав. Шэршняў, старшыня Рэчыцкага Акрвыканкому (в о п л е с к і).

Т а в. Ш э р ш н я ў: Таварышы, ад рабочых і сялян Рэчыцкай акругі, якая цяпер улілася ў нашу родную, брацкую, беларускую сям'ю, передаю шчырае прывітаньне нашаму ўраду Беларусі, IV-й сэсіі ЦВК (в о п л е с к і).

Таварышы, момант далучэньня Рэчыцкай акругі ў жыцьці шырокіх працоўных мас зьяўляецца гістарычным момантам. З гэтым момантам зьдзейсьніліся нашы пажаданьні, нашы чаканьні, нашы надзеі далучэньня нашае акругі да Беларусі. З гэтага моманту, таварышы, гэтым пачалася мяжа, ад якой мы можам пачаць больш шырока, больш поўна адраджэньне нашага быту, беларускай культуры, нашай роднай мовы.

Таварышы, з гэтага моманту мы можам цяпер пакласьці пачатак супольнай дружнай працы, пайсьці па таму шырокаму гістарычнаму шляху, па якому пайшла Беларуская рэспубліка яшчэ ў 1919 годзе ў цяжкіх умовах і цяпер так слаўна і станоўча ідзе па гэтаму шляху, адбудоўваючы сваю савецкую гаспадарку.

Таварышы, па сутнасьці кажучы, калі браць конкрэтныя ўмовы нашай Рэчыцкай акругі, дык мелў рацыю тав., які нядаўна тутака выступаў і казаў, што па сваёй экономіцы, па свайму быту, па свайму ладу, па сваёй расьліннасьці, па дынаміцы разьвіцьця сваёй гаспадаркі, Рэчыцкая акруга, калі ня лічыць яшчэ большага разьвіцьця яе прамысловасьці, у васноўным мала чым розьніцца ад суседніх акруг Беларусі.

Калі ўзяць нацыянальны склад, дык мы маем каля 85 проц. беларусоў. Калі ўзяць агульна вялікія дзяржаўныя мерапрыемствы БССР, як мэліорацыя, дык у поўнай меры зразумела, ясна, што сучаснае далучэньне было вялікім жаданьнем, якое наглядалася сярод шырокіх працоўных мас.

Таварышы, у нас яшчэ да далучэньня адчуваўся струмень, процэс, так сказаць, імкненьня да ўсяго роднага, беларускага. Я сам быў вачавідцам у 1923 годзе, будучы праездам у Рэчыцы на мітынгу, калі настаўніцкі зьезд спрэзэнтаваў сьцяг выканкому, сьпяваліся беларускія песьні: „Ад веку мы спалі“.

Гэта сьведчыць аб тым глыбокім процэсе, які ня толькі перажывае інтэлігенцыя, але які адбівае гэты глыбокі процэс сярод сялянства.

Апрача таго, функцыянавала выстарчаючая колькасьць школ, дзе выкладаньне было на беларускай мове.

Усё гэта гаворыць за сябе, і адсюль мы робім адпаведныя высновы. У нас, у Рэчыцкай акрузе, ня было такой невялікай замінкі, аб якой казаў тав. Еўменаў з Гомелю. Там была рэорганізацыя губэрскага апарату ў акруговы. Гэта рыкошэтам мела пэўнае адбіцьцё, але,

к нашаму задаваленьню, гэта было часовым. У нас іншае становішча. У нас нішто не зьмянілася, апрача таго выдатнага боку, які атрымаў быўшы Рэчыцкі павет. Дзякуючы рэорганізацыі, ў акрузе 2-га студзеня ў сувязі з справаздачнай падрыхтоўчай кампаніяй адбыліся пашыраныя пленумы райвыканкомаў з удзелам старшынь сельсаветаў, камітэтаў узаемадапамогі, прадстаўнікоў нізавой коопэрацыі. Гэтыя пленумы падкрэсьлілі з вялікім задаваленьнем далучэньне нашай Рэчыцкай акругі да Беларусі. Яны падкрэсьлілі тое, што першым дзяржаўным актам БССР была рэорганізацыя павятовага і валаснога апарату ў акруговыя і раённыя. Нашы сельсаветы паказвалі, што гэтым актам урад Беларусі адразу паставіў савецкі апарат яшчэ бліжэй да шырокіх працоўных мас. Гэты акт сельсаветы ўсьвядомілі і ўбачылі, што на мясцох можна вырашыць куды больш пытаньняў, чымся вырашалася раней. За гэта гаварыла і тое, што тыя пытаньні, якія раней існавалі ў сувязі з адміністраваньнем у нас у галіне збору падаткаў на мясцох, цяпер, у сувязі з пераходам на акруговую сыстэму, гэтага ня будзе. Гэта яны адзначылі і падкрэсьлілі.

Цяпер, таварышы, у нас у нашай акрузе закончана амаль-што справаздачна-падрыхтоўчая кампанія да перавыбараў саветаў. Што мы бачым на гэтых справаздачных кампаніях? Яны, як у люстры, адбілі адносіны сялянства, глыбокія і цёплыя адносіны сялянства да пытаньня аб далучэньні Рэчыцкага павету да Беларусі. Аб гэтым, таварышы, сьведчыць цэлы шэраг пастаноў і прывітаньняў.

У гэты момант далучэньня яшчэ з большай яскравасьцю ставіцца перад нашым актывам пытаньне паважнасьці асноўных задач па адбудаваньні нашай гаспадаркі. Мы яшчэ больш выдзяляем пытаньне правільнага ажыцьцяўленьня нацполітыкі ў нашай Рэчыцкай акрузе. Мы дасканала ведаем, што ад правільнага ажыцьцяўленьня данага пытаньня будзе куды хутчэй расьці культурнасьць, адбудаваньне нашай гаспадаркі. Таварышы, мы на мясцох маем добрую поўную волю, поўнае жаданьне з боку актыву грамадзкіх організацый шырокіх працоўных мас і інтэлігенцыі аддаць усю поўную энэргію на правільнае ажыцьцяўленьне гэтых пытаньняў, на правільнае вырашэньне задач, якія перад намі стаяць.

Таварышы, мы, рэчычане, глыбока верым, што пры такіх адносінах з боку нашага ўраду мы атрымаем адпаведнае падтрыманьне і супольнымі высілкамі правільна і з посьпехам вырашым тыя задачы, якія стаяць перад намі.

Старшыня: Слова мае тав. Бэйлін.

Бэйлін: Савецкая ўлада, а таксама беларускі ўрад за час сваёй працы, за час існаваньня рэволюцыі праводзіць вялізарную працу. Мэта гэтае працы—перабудова ўсяго старога на соцыялістычны лад. На вёсцы мы дасканала ведаем, што савецкая ўлада праводзіць найвялізарнейшую працу ў галіне зямлябудаўніцтва, у галіне падняцьця культурнасьці вёскі. У гэтым стасунку, я думаю, будзе лішнім падаваць пэўныя лічбы, бо вы дасканала ведаеце аб іх з дакладу, які нядаўна рабіў Наркамзем, і дзе мы ўжо чулі цэлы шэраг лічбаў. Мы маем цэлы шэраг вёсак, якія ліквідуюць сваю трохполку; гэтая старая спадчына адыходзіць у галіну старасьветчыны, і зямлякарыстаньне прымае больш удасканаленую культурную форму.

У галіне нашых фабрык і заводаў, вам, таварышы, таксама дасканала вядома, якая праца тат праводзіцца; рабочыя з фабрык, якія тутака прысутнічаюць на гэтай Сэсіі, дасканала ведаюць аб тэй вялізарнай працы, якую беларускі ўрад праводзіць у гэтых адносінах.

Работніца з фабрыкі „Дзьвіна" ілюстравала гэтую працу, і рабочыя, якія выступалі з Рэчыцкага павету, казалі аб вялікай працы ў галіне мэханізацыі заводаў, перабудовы, палепшаньня іх, пашырэньня. Гэта робіць беларускі ўрад.

За гэтыя гады мы маем вялікія дасягненьні: павялічылася колькасьць нашых фабрык, павялічылася колькасьць машын, павялічылася колькасьць рабочых на гэтых фабрыках.

Мы маем яшчэ вялікія дасягненьні ў галіне культуры: павялічыўся лік нашых школ ніжэйшай ступені, сярэдняй і вышэйшай. Мы маем вялікія дасягненьні ва ўсіх нацыянальных школах. Я на гэтым спыняцца ня буду, але я хачу спыніцца на адным пытаньні, якое вырашана ў нашай савецкай сапраўднасьці, у Беларусі і ў цэлым нашым Савецкім Саюзе, але па якому прадстаіць яшчэ вялікая праца,—гэта пытаньне аб мястэчках. Гэта пытаньне зьяўляецца надзвычайна важным, і ў нашай сапраўднасьці савецкага будаўніцтва гэта пытаньне бязумоўна павінна атрымаць тое вырашэньне, як ставіць яго Комуністычная партыя і савецкая ўлада. Якія дасягненьні мы маем у гэтых адносінах? Я думаю, што ня лішнім будзе, калі я тут праілюструю перад вамі некаторыя лічбы, што зроблена за гэты час у Беларусі.

Калі дзе-небудзь у буржуазных дэмократычных дзяржавах пачынаюць гаварыць аб некаторым палепшаньні міжнацыянальных адносін, якія, зразумела, ня могуць быць палепшаны да таго часу, пакуль там яшчэ пануе капітал, пакуль фабрыкі і заводы знаходзяцца ў руках буржуазіі, калі землі знаходзяцца ў буйных абшарнікаў, дык мы ў гэтых адносінах маем вялікія дасягненьні.

Я падам наступныя лічбы: мы зараз маем надзеленых зямлёю 7.336 сем'яў, з колькасьцю душ—39.319, колькасьцю зямлі—42.216 дзес.

Як яны ў сучасны момант разьмяркоўваюцца? Мы маем яўрэйскіх вёсак вышэй 500 сем'яў па Беларусі: 15 вёсак з 25—50 сем'ямі; 35 вёсак з 15—25 сем'ямі; 44 вёскі з 10—15 сем'ямі. Пасёлкаў з 5—10 сем'ямі мы маем 77, з 4-ма сем'ямі—115 і ад 2-3 сем'яў—162. Колектываў у сучасны момант па Беларусі мы маем 145, з колькасьцю сем'яў—1.211, колькасьцю душ—5.347, колькасьцю зямлі—551 дзес.

Бязумоўна, гэта яшчэ ня поўнасьцю вырашае пытаньне аб мястэчках. Тая спадчына, якую атрымала савецкая ўлада ад царызму, у выглядзе капіталістычнай пабудовы мястэчка, пры савецкім будаўніцтве ў далейшым так існаваць ня можа. У гэтых адносінах бязумоўна праароблена вялікая праца. Мы маем перад сабою цэлы шэраг пастаноў нашых партыйных і вышэйшых урадавых органаў аб далейшым вырашэньні гэтага пытаньня. Мы маем пастанову, што ў далейшым зямлянадзяленьне яўрэяў павінна ісьці за кошт вялікіх масываў, мы маем пастанову аб тым, каб сяліць яўрэйскае насельніцтва больш компактнымі масамі. Я думаю, што гэтым пытаньне вырашаецца правільна. Я думаю, што ў далейшым наш урад, беларускі савецкі ўрад будзе праводзіць працу таксама пасьпешна, як праводзіў да гэтага часу, як вырашаў да гэтага часу гэта важнае пытаньне ў галіне перабудовы яўрэйскага мястэчка, каб з капіталістычнага мястэчка зрабіць колектыўнае, каб яно магло прынесьці карысьць дзяржаве.

Што мы маем у справе вырашэньня пытаньня аб саматужніках? Учора тав. Адамовіч на гэтым пытаньні спыняўся. У гэтых адносінах я павінен сказаць, што пытаньне, якое было пастаўлена партыяю і савецкаю ўладаю, беларускім савецкім урадам, атрымала правільнае вырашэньне. Мы зараз маем коопэраваных саматужнікаў амаль 40 проц. Гэта вялікае дасягненьне за такі кароткі час. Мы маем зараз 66 ссуда-ашчадных таварыстваў, якія крэдытуюць гэтых саматужні-

каў. Мы ўжо маем у сябе тыя органы, якія збываюць гэту продукцыю і даюць магчымасьць у далейшым яшчэ больш коопэраваць гэтых саматужнікаў, прасунуць гаспадарку саматужнікаў у галіну нашае савецкае гаспадаркі і даць магчымасьць продукцыі нашых саматужнікаў уліцца ў продукцыю нашых фабрык і заводаў. Гэта вялікае пытаньне.

Я думаю, што ў далейшым, у зьвязку з далучэньнем Гомеля і Рэчыцы да Беларусі, дзе пытаньне аб мястэчках аналёгічна таму, як гэта стаіць у Беларусі (гэта таксама быўш. мяжа аселасьці), трэба будзе таксама вырашыць пытаньне ў адносінах коопэраваньня саматужнікаў.

Таксама трэба будзе нашаму ўраду сур'ёзна перагледзець нашы падаткі ў адносінах да саматужнікаў. Вам вядома, што тэй пастановай, якая выдана ўрадам, былі звольнены беднякі-саматужнікі ад падаткаў, яны мелі цэлы шэраг льгот. Бязумоўна, што гэта дало ім больш магчымасьці разьвіваць сваю гаспадарку. Але я думаю, што трэба будзе ў далейшым, прымаючы пад увагу, што наша савецкая ўлада гаспадарча ўзмацнілася, што яна можа сабе дазволіць гэту роскаш, перагледзець яшчэ раз гэта пытаньне. Мы ўжо ў гэтым годзе маем да 30 проц. звольненых ад сельска-гаспадарчага падатку сялян у вёсцы, трэба будзе нашаму ўраду перагледзіць падаткі і ў адносінах да саматужнікаў, ці няма дзе-небудзь якое няроўнасьці. Я думаю, што гэта важнае пытаньне, бо яно дае вялікую магчымасьць нашым саматужнікам разьвіваць сваю гаспадарку, павялічваць сваю кваліфікацыю і даць лепшую продукцыю, у якой наша прамысловасьць адчувае патрэбу.

Што мы маем у гэтых адносінах? Цікава паглядзець, як ідзе рост коопэрацыі нашага саматужнага промыслу. Рост ідзе нормальна. І ў далейшым неабходна, каб гэты рост ня спыняўся. Я прывяду вам лічбы, пачынаючы з 1 студзеня па 1 верасьня г. г. Мы мелі на 1-га верасьня 1926 г. 130 арцеляй, зараз мы маем 250 арцеляй, г. зн. рост большы, чым на 12 проц.

Мы мелі на першае верасьня м. г. 28 ссуда-ашчадных таварystваў, мы маем зараз на 1-ае студзеня б. г. 66 ссуда-ашчэдных таварystваў (гэта закупачныя таварystвы). Мы маем па Беларусі 19.000 коопэраваных саматужнікаў. Гэты лік вельмі вялікі, які дае магчымасьць бачыць нашы дасягненьні.

Пяройдзем да школ, да лічбаў, якія паказваюць, як ідзе рост школ і як беларускі ўрад вырашае нацыянальнае пытаньне. Мы мелі ў 1924 годзе 98 яўрэйскіх школ, у 1925 г. 141 яўрэйскую школу і зараз мы маем 176 яўрэйскіх школ. Гэта даволі значны рост. А цяпер паглядзім, як павялічваецца лік дзяцей, што навучаюцца ў гэтых школах. У 1924 г. мы мелі 12.241 вучняў, у 1925 г.—19.095 і ў 1925-26г.—22.535.

У галіне выпуску настаўнікаў мы таксама маем дасягненьні. У 1924 г. мы выпусьцілі з пэдтэхнікуму 14 настаўнікаў, у 1925 г.—52 і ў 1926 г.—154 яўрэйскіх настаўнікаў.

У галіне судовых яўрэйскіх камер у 1925 годзе мы мелі толькі адзін яўрэйскі суд, зараз 5 яўрэйскіх судоў, маецца пастанова аб неабходнасьці павялічэньня колькасьці яўрэйскіх судоў па акругах. Гэта даводзіць правільнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня.

Нацыянальных саветаў у 1925 годзе было 11, а ў 1926 г.—18. Мы ня маем апошніх зьвестак пасьля перавыбараў; колькасьць саветаў напэўна павялічылася. У адносінах савецкага будаўніцтва мы маем вялікія дасягненьні. Як ідзе рост уцягненьня яўрэйскага насельніцтва ў савецкае будаўніцтва? Яўрэяў—членаў сельсаветаў у 1925 годзе было 698, у 1926 г.—1.029. Процант росту аграмадны.

У Райвыканкомах у 1925 годзе мы мелі 6 проц., у 1926 г.—8,3 проц.

Усе гэтыя лічбы даводзяць, як правільна вырашана яўрэйскае пытаньне.

Далей, я хацеў-бы спыніцца на той барацьбе, якую нам прыходзіцца весьці. Гэта барацьба ня вузка беларуская. Гэта—барацьба з буржуазнымі яўрэйскімі арганізацыямі, якія ў сучасную пару аб'ядналіся з сваімі міжнароднымі контр-рэволюцыйнымі элемэнтамі і перашкаджаюць нашай рабоце.

Калі мы вырашалі пытаньне аб надзяленьні яўрэяў зямлёю, дык мы мелі цэлы шэраг сельска-гаспадарчых колектываў, якія даволі добра вялі сваю работу. У адзін прыгожы дзень мы мелі поўны развал гэтых колектываў. Гэта адбылося таму, што у гэтых колектывах былі сіёністыя, „эйховерцы“, якія ўнесьлі разлад у гэтыя колектывы. Сіёністычная арганізацыя, якая мае міжнародны характар, часта перашкаджае нашай рабоце. У сучасную пару гэта арганізацыя ў Палестыне перажывае вялікі крызіс. Колькі Англія ні дае грошай, усё роўна усё ідзе прахам, і палажэньне там не паляпшаецца. Мы зрабілі аналіз палажэньня ў Палестыне. Нас цікавіла, чаму там такое цяжкое палажэньне, ня гледзячы на грашовую дапамогу, якую выдае Англія яўрэйскай буржуазіі для таго, каб прыцягнуць яе ў Палестыну, з тым, каб зрабіць сродкам прыгнечаньня арабскага насельніцтва. Справа ў тым, што яўрэйскія рабочыя, яўрэйскія працоўныя, якія прыяжджаюць сюды, ня хочуць быць прыладаю ў галіне прыгнечаньня арабскага працоўнага насельніцтва. У гэтым прычыны крызісу, што маецца цяпер у Палестыне. Усе тыя, што прыяжджаюць назад з Палестыны, паказваюць на тое, што ўся работа і агітацыя, якая праводзіцца ангельскім імпэрыялізмам, накіравана на прыгнячэньне і ўдушэньне арабскага насельніцтва. Шмат хто з выехаўшых з Палестыны застаюцца у Польшчы і там пачынаюць весьці перамаўленьні аб вырашэньні яўрэйскага пытаньня. Мы, таварышы, сумняваемся ў гэтым. Мы ня верым таму, што польская дзяржава ў сучасную пару можа што-небудзь зрабіць у галіне перабудовы яўрэйскага мястэчка, у галіне палепшаньня матар'яльнага палажэньня яўрэяў.

Сягоньня т. Ашаровіч, які гаварыў на яўрэйскай мове, упамянуў аб лісьце, які пісаў яўрэйскі пісьменьнік Шолам Аш Пілсудзкаму. Што пісаў Шолам Аш? Шолам Аш—гэты яўрэйскі пісьменьнік, у сваім лісьце называў Пілсудзкага вялікім гэніем, вызваліцелем усіх працоўных. Ён пісаў: „вы павінны ведаць, што матар'яльнае палажэньне яўрэйскага насельніцтва страшэнна цяжка. Я сам быў сьведкаю, як апошні яўрэйскі стары зэдлік прадаваўся на вуліцы, таму што ўласьнік гэтага зэдліку ня меў магчымасьці заплаціць падатку. Польская адміністрацыя страшэнна груба абходзіцца з яўрэйскім насельніцтвам, мае месца антысэмітызм і г. д“. Ён канчае свой ліст спадзяваньнем, што гэты Пілсудзкі, „які гэтак любіць яўрэйскі народ“, бязумоўна вызваліць яўрэйскі народ ад гэтае пакуты.

Я, таварышы, ня веру, каб у сучасны момант можна было што-небудзь зрабіць у галіне пераўтварэньня яўрэйскага жыцьця ў Польшчы. Калі возьмем зямлянадзяленьне, што ў сучасны момант Польшча можа зрабіць? Зямля-ж не знаходзіцца ў яе руках. Возьмем паўстаньне, нездаволеньне сялян, якое ёсьць у Польшчы. Колькі польская буржуазія ні гаварыла, што ў гэтым вінна крамола, што ў гэтым вінна комуністычная партыя, што ў гэтым вінны Комінтэрн, але-ж гэта—фантазія. Можа скора прыпішуць савецкай уладзе землятрасеньні, якія адбываюцца ў Амэрыцы. Гэта-ж, урэшце,—фантазія. Мы, як людзі, якія рэальна глядзяць на рэчы, ведаем, чаму гэта так, ведаем, што пры

царызьме быў рэволюцыйны рух з тэй прычыны, што было цяжкое становішча на фабрыках і заводах, батракоў—у маёнтках, сялян—у вёсцы, дзе заблытанае зямлябудаўніцтва прыдушыла іх. Тое-ж самае і ў Польшчы; комуністычная партыя ў гэтым ня вінна; комуністычная партыя ўтвараецца на падставе гэтага бязвыходнага становішча, у якім знаходзіцца насяленьне. Сялянскае насельніцтва не з дабра паўстае, не з дабра ідзе ў астрогі, не з дабра ідзе ў лес і г. д. Тое самае і ў адносінах да яўрэйскага насяленьня ў Польшчы. Бязвыходнае становішча яўрэйскага насяленьня ня можа быць разьвязана пры існуючым парадку. Я прачытаю вам адзін дакумант з яўрэйскай настаўніцкай конфэрэнцыі, якая адбывалася на днях у Польшчы. Яна адбывалася ў той самы час, калі адбывалася наша конфэрэнцыя ў Менску. „Лодзінскі Векер“—бундаўская газэта—піша дэкларацыю, якую паслалі ўраду. Што-ж у гэтай дэкларацыі пішацца? Пішацца, што непамерна цяжкое становішча яўрэйскай школы. У гэтых яўрэйскіх школах вучаць таму, каб яўрэйскае дзіця ведала, што такое „пані“ і г. д. Зьнішчаецца яўрэйская мова ў яўрэйскай школе. Яны прасілі Міністэрства Асьветы прыслаць прадстаўніка на конфэрэнцыю, але ім адказалі, што „дзякуючы таму, што конфэрэнцыя адбываецца напярэдадні сьвята новага году, мы прыйсьці ня можам“. Наш урад прышоў на яўрэйскую конфэрэнцыю. Былі прадстаўнікі партыі і ўраду, якія паказвалі на недахваты ў школе і г. д. і г. д. (Адамовіч: „Бо ў нас сьвята ў працы“).

Але-ж у Польшчы сьвята тады, калі яўрэйская школа не на патрэбнай вышыні, калі яна ня можа ўцягнуць усіх у сябе. Якую мы атрымалі школу? Ці-ж у нас былі школы? Не, ня было. Прадстаўнікі нашых вышэйшых партыйных і савецкіх органаў прыехалі на конфэрэнцыю, раілі, як лепш утварыць школу. У тэй дэкларацыі гаворыцца, што ніколі яўрэйскае дзіця ў Польшчы, якое хоча вучыцца, не дасягне таго, чаго яно хоча пры існуючым парадку. Адзін стары настаўнік напісаў рэзолюцыю па гэтым пытаньні і казаў, што да таго часу, пакуль такі парадак будзе ў Польшчы, бязумоўна, ні яўрэйская, ні беларуская, ні расійская, ні польская школы не атрымаюць таго, што павінны атрымаць, бо іх будуць вучыць на польскай мове „божа, цара храні“, як лепш маліцца богу, а ня будуць вучыць соцыялізму, Кастрычнікаўскае Рэволюцыі і г. д. І ў гэтай рэзолюцыі гэты беспартыйны настаўнік казаў: „І мы гаворым „Лодзінскаму Векеру“—бундаўскай газ.: даволі займацца згодніцтвам, трэба паставіць пытаньне аб савецкай уладзе ў Польшчы. Калі гэтага ня будзе, калі рабочая кляса ня будзе мець улады, калі селянін ня будзе яе мець, то школ ня будзе ні яўрэйскіх, ні беларускіх. За ўсякае вольнае слова, за самую маленькую крытыку будуць арыштоўваць і садзіць у вастрогі. У сучасны момант сіёністыя перавандравалі ў Польшчу і вядуць аграмадную работу, разам з духавенствам, з вышэйшымі чыноўнікамі, у тым напрамку, як лепш падманіць яўрэйскія масы. Гэта мы павінны ведаць і быць напагатове. Я лічу, што абавязак кожнага грамадзяніна, абавязак кожнага яўрэя—паказаць гэты падман, не даваць папасьці яўрэйскім масам у Польшчы ў пастку, бо працоўныя Польшчы, рабочыя—гэта нашы прыяцелі, а буржуазія—наш вораг“.

Аб тым, што цяпер робіцца ў Польшчы, можа ня ўсе ведаюць. Польшча ў сучасны момант вядзе перамовы з рабінамі, духавенствам і сіёністымі, як пасадзіць яўрэйскае насяленьне на зямлі. Стаіць пытаньне аб Пінскіх балотах і маёнтках, што ляжаць наўкола гэтых балот. Стаіць пытаньне аб тым, якім чынам выкупіць гэтыя маёнткі ў памешчыкаў. Я не палітык і добра ня ведаю, але, можа быць, як ангельскаму імпэрыялізму выгадна мець Палестыну, дык, можа быць,

і польскаму імпэрыялізму выгадна мець гэтыя Пінскія балоты. Але мы павінны гэты падман паказваць. Памешчыкі ніколі не аддадуць зямлі яўрэям, якіх яны ненавідзяць спрадвеку. У гэтым напрамку мы павінны, бязумоўна, вытлумачваць у нашай прэсе, паказваючы хлусьню і падман польскага ўраду, якому дапамагаюць сіёністыя, агенты буржуазіі. Я маю надзею, што, бязумоўна, польскія рабочыя вельмі добра гэта самі зразумеюць. Зразумеюць, што іх вызваленьне ня ў тым, калі Пілсудзкага сустракаюць з яўрэйскай торай, якую ён цалуе, і назаўтра пішуць ліст гэтаму „вялікаму вызваленцу народу". Пілсудзкі так любіць яўрэйскую тору, як ён наогул любіць яўрэяў, як наогул ён любіць працоўных. Гэта—гістарычны акт, гэта—скрытная мэханіка.

І вы ведаеце, таварышы, што паводле яўрэйскага закону, калі не яўрэй пацалаваў гэтую тору, дык яна страціла сваю сьвятасьць, і акурат нашы яўрэйскія рабіны прыносяць Пілсудзкаму пацалаваць тору ў той час, калі ён так далёка стаіць ад яўрэйства. Гэта значыць, што яны продалі яўрэйскі закон за глупства, абы толькі прайсьці ў міністэрства і г. д. Гэта, бязумоўна, не памяншае таго значэньня, што яшчэ ў Польшчы асабліва яўрэйскае духавенства мае вялікі ўплыў на яўрэйскае насельніцтва. Гэта польскі ўрад робіць для таго, каб прывабіць духавенства, абдурваць, зманіць яўрэйскіх працоўных. Я лічу, што абдурваць можна адзін-два разы, але ня болей. Я спадзяюся, што наш беларускі ўрад, як ён вырашае нацыянальнае пытаньне ў адносінах да беларусоў, расійцаў, палякаў, яўрэяў, літоўцаў, так і ў далейшым будзе працаваць на карысьць вырашэньня гэтага важнага пытаньня ў нашым будаўніцтве, правільнага разьвязаньня нацыянальнага пытаньня паленінску, каб усе працоўныя, што жывуць тутака, на тэрыторыі Беларусі, былі бязумоўна роўныя ў правах і ў дзяржаўным будаўніцтве. Я, таварышы, спадзяюся, што і нашы суседзі, нашы рабочыя, якія жывуць на той бок, якім нельга перайсьці гэтых меж, бязумоўна гэтыя рабочыя ня сёньня—дык заўтра, ня заўтра—дык пасьлязаўтра разгадаюць тую палітыку, якая там робіцца Пілсудзкім, рабінамі, ксяндзамі і г. д., і бязумоўна возьмуць дзяржаўнае кіраўніцтва ў свае рукі. Мы спадзяемся, што польскія рабочыя самі справяцца са сваёй задачай, як расійскія справіліся са сваёй задачай. Калі хто-небудзь адважыцца наступіць на нас, пераступіць межы нашага мірнага будаўніцтва, нашай савецкай улады, нашай Беларускай рэспублікі, дык, як тутака ўжо заявіла работніца, заявілі сяляне, заявіў селянін Рэчыцкага павету і я таксама заяўляю, працоўныя Беларусі здолеюць сябе абараніць. Я, таварышы, не залічаю сябе, як нацыяналісты, да яўрэйскай групы, для мяне няма нацыянальнасьці, але, таварышы, для мяне існуе нацыянальнае пытаньне, паколькі яго патрэбна разьвязаць, вырашыць, як старую спадчыну. Нядаўна камісія, якая езьдзіла для вывучэньня мястэчка, сустрэла, а аб гэтым ведаюць нашы акругі, тых калек спаленых мястэчак, якіх мы атрымалі ў спадчыну ад польскай окупацыі. Я таксама заяўляю, што калі польскаму ўраду, пад уплывам Англіі і іншага імпэрыялізму, захочацца пакусіцца на нашу вольную працу, на наш савецкі ўрад, на разьвіцьцё нашай гаспадаркі, дык я думаю, што ніводзін, за выключэньнем, можа, тых сіёністых, якія, магчыма, чакаюць з нецярплівасьцю вызваленца Пілсудзкага з Польшчы,— ніводзін з іх не застанецца, што-б не пашоў у Чырвоную армію, якая дапаможа нам абараніць інтарэсы савецкай улады. Яны зараз мірна будуюць гаспадарку ў нашым Савецкім Саюзе, у нашай Савецкай Беларусі, але калі будзе патрэбна, дык генэралы Польшчы адчуюць, як ісьці проці Савецкага Саюзу.

Я, таварышы, спадзяюся, што наш урад Беларусі ў далейшым будзе паленінску правільна вырашаць нацыянальнае пытаньне і пытаньне лепшага гаспадарчага будаўніцтва ўсіх нацыянальнасьцяй.

Старшыня: Слова мае т. Зянькоў.

Тав. Зянькоў: Таварышы, ад імя Гомельскага сялянства дазвольце перадаць 4-й Сэсіі ЦВК Беларусі гарачае прывітаньне (воплескі).

Таварышы, сялянства Гомельскага павету зьяўляецца часткай Беларусі. Сялянства нашага Гомельскага павету не забылася роднае мовы, ахвотна чытае беларускія газэты і ахвотна пасылае сваіх дзяцей у беларускую школу.

У прыватнасьці, Гомельшчына на сваіх агульных сходах выносіць гарачае прывітаньне нашым братом-беларусам—і ня толькі беларусам, але і тым нашым братом, якія знаходзяцца ў кіпцюрох Польшчы. Нашы сяляне Гомельскага павету на сваіх сходах заяўляюць аб тым, што яны ніколі не пакінуць сваіх братоў, якія пакутуюць у Польшчы. Нашы сяляне Гомельшчыны перанесьлі ўціск белых паноў на працягу двух тыдняў, і частка Гомельскага павету перанесла вялікія труднасьці, і асабліва сялянства, якое было ў кіпцюрох белых паноў. Наша сялянства заяўляе аб тым, што нашы межы будзе абараняць ня толькі наша Чырвоная армія, але будуць абараняць усе нашы сяляне, старыя і малыя абодвух полаў—жанчыны і мужчыны.

Таварышы, ад імя сялян нашых дазвольце перадаць гарачае прывітаньне нашай Комуністычнай партыі.

Няхай жыве III-ці Інтэрнацыянал, які нясе сьветлае, свабоднае жыцьцё працоўным.

Старшыня: Пасьля заслуханьня наступнага прамоўцы паставім пытаньне аб спыненьні спрэчак, а потым заслухаем заключнае слова. Слова мае т. Галадзед.

Тав. Галадзед: Таварышы, IV-ая чарговая Сэсія ЦВК БССР пачынае сваю працу па вырашэньні шэрагу найважнейшых пытаньняў социялістычнага будаўніцтва ў такі пэрыод, які можна ахарактарызаваць, як пэрыод шырокага размаху ў творчасьці народных мас— рабочай клясы і сялянства ўсяго СССР і БССР, накіраванай па шляху заснаваньня трывалага социялістычнага фундаманту для міжнароднай социяльнай рэволюцыі.

Гэтыя посьпехі пролетарыяту СССР пракладаюць свой глыбокі сьлед ва ўсёй чалавечай грамадзе земнае кулі. З аднаго боку, нашы посьпехі выклікаюць глыбейшае спачуваньне да ўлады саветаў з боку шматмільённых пролетарскіх мас, пераконваюць працоўных усяго сьвету, што пролетарыят, які адваяваў свае правы і стаіць ва ўладзе пролетарскай дзяржавы, зьяўляецца здольным тварыць сапраўды цуды ня толькі на фронце ўзброенай барацьбы з капіталам, але і на фронце мірнага социялістычнага будаўніцтва. Гэты факт—творчасьць пераможнага пролетарыяту СССР—узмацняе веру рабочай клясы ўсіх краін у тым, што перамога пролетарскай рэволюцыі ёсьць ня толькі рэч магчымая, але і абсолютна-няўхільная ва ўсім сьвеце, бо гэта адзіны выхад для ўсіх працоўных мас, якія капіталістычнай політыкай пастаўлены ў надзвычайна цяжкія ўмовы. Нашы посьпехі—лепшы сродак для рэволюцыянізацыі ўсіх прыгнечаных народаў, якія знаходзяцца яшчэ пад пятой імпэрыялізму. З другога боку, нашы посьпехі на фронце гаспадарчага і культурнага будаўніцтва СССР зьяўляюцца непасрэднымі прадвесьнікамі зьнішчэньня сусьветнага капіталізму. Адсюль рост тэй колёсальнай нянавісьці эўропэйскай буржуазіі, якая накіроўваецца проці СССР. Адсюль таксама разьвіваецца шалёнае на-

ступленьне капіталу на рабочую клясу ўнутры сваіх капіталістычных дзяржаў. Мы ведаем, што эўропэйскі капіталізм усё больш і больш траціць свой уплыў уколёніяльных старонках, дзе ён праяўляў сваё неабмежаванае панаваньне над прыгнечанымі працоўнымі народамі Ўсходу. Бліскучыя посьпехі нацыянальна-рэволюцыйнай барацьбы кітайскага народу, посьпехі народнай арміі Кітаю зьяўляюцца лепшым довадам заняпаду ўплыву эўропэйскага капіталізму на неабмежаваных прасторах земнае кулі, г. зн. заняпад яго панаваньня над сотнямі мільёнаў працоўных.

Усе сваё ўзрушаньні і паражэньні на фронце барацьбы з рабочай клясай эўропэйскага контынэнту і ў колёніях капіталізм прыпісвае расійскай бальшавіцкай пропагандзе. Адсюль шалёная кампанія буржуазіі і яе верных наймітаў соцыял-дэмократаў з II-га інтэрнацыяналу проці Савецкага Саюзу. Разумеецца, справа не ў агітацыі агентаў „Комінтэрну", а справа ў тым, што вытрапаны капіталістычны сьвет ня можа выбрацца з таго балота, у якім ён апыніўся пасьля сусьветнай вайны, без узмацненьня эксплёатацыі рабочых. Усе выдаткі сусьветнае бойні 14—18 г. г. буржуазія імкнецца цалком узваліць на рабочую клясу пры дапамозе павялічэньня яго эксплёатацыі. Разумеецца, справа не ў агітацыі агентаў бальшавізму, а справа ў тым, што рабочыя не паддаюцца тэй шалёнай эксплёатацыі, якую капіталістыя разьвіваюць (прыклад з ангельскімі вуглякопамі). Апрача таго, нам вядома, што пашырэньне капіталістычнай прамысловасьці ўпіраецца ў проблему рынкаў, якія вырываюцца з рук паасобных буржуазных дзяржаў. Без вырашэньня проблемы рынкаў капіталістыя ня могуць і кроку пасунуцца ўперад у справе разьвіцьця сваёй прамысловасьці. Напрыклад, буйнейшы рынак сыравіны і рынак спажываньня прамысловых тавараў, як рынак СССР, даўно выпаў з капіталістычнай Эўропы, г.-зн. не ўваходзіць у вагульную сыстэму гаспадарчых суадносін капіталістычнай вытворчасьці, бо ў нас вытворчыя суадносіны будуюцца на прынцыпе новых соцыялістычных стасункаў, а не на аснове капіталістычнага характару вытворчасьці. Апрача таго, вя ізарны рынак на Ўсходзе—кітайскі рынак—вырываецца таксама з-пад эксплёатацыі драпежнікаў капіталу. І іменна, дзякуючы рынкам, нарастаюць супярэчнасьці паміж паасобнымі буржуазнымі краінамі, вынікам чаго зьяўляецца няўхільнае імкненьне буржуазіі да перадзелу рынкаў, а гэта магчыма толькі пры дапамозе новых крывавых войнаў. Але, разумеецца, ня гледзячы на ўласныя супярэчнасьці ўнутры самога капіталістычнага сьвету, буржуазія ўсё-ж ткі ў першую чаргу баіцца свайго супольнага ворага, гэтага-ж супольнага для ўсяго каптіалізму ворага яна бачыць у асобе СССР, як пролетарскай дзяржавы, дыямэтральна процілежнай па сваёй соцыяльна-клясавай сутнасьці дзяржавам капіталістычным, які стаіць на абароне заваёў пролетарыяту. І іменна дзеля гэтага буржуазія вядзе шалёную ўзброеную падрыхтоўку проці СССР, і іменна дзеля гэтага гэтая падрыхтоўка праяўляецца ў першую чаргу ў ажыўленьні фашыцкіх організацый унутры буржуазных дзяржаў і ў фашыцкіх пераваротах. Гэтае ажыўленьне фашызму патрэбна буржуазіі для забесьпячэньня свайго ўласнага тылу. Разумеецца ні для каго ні сакрэт тое, што галоўным зачыншчыкам наступальнага ваеннага імпэрыялізму, як усім вядома, зьяўляецца ангельскі консэрватыўны ўрад, які траціць сваё панаваньне над сусьветнымі рынкамі: у Кітаі, у Індыі і г. д. Там рэволюцыйныя масы рашуча выцясьняюць панаваньне ангельскага капіталу. Не зьяўляецца сакрэтам таксама і тое, што на службе ў ангельскіх консэрватараў жывуць такія дзяржавы, як Польшча, Латвія і іншыя прыбалтыцкія дробныя

дзяржавы, якія, з аднаго боку, цягнуць сваё існаваньне на падачкі ангельскіх капіталістых, і якія, з другога боку, географічна найбольш выгодна для Ангельшчыны разьмешчаны ў стасунку да СССР. Самым верным васалам ангельскага консэрватызму зьяўляецца ўрад Пілсудзкага. На гэтых клявішах, на клявішах фізгармоніі яснавяльможнага пана Пілсудзкага і іграе ангельскі імпэрыялізм. Ня можа быць ніякага сумненьня ў тым, што апошні фашыцкі пераварот у Літве ёсьць справа рук Пілсудзкага, разумеецца, па даручэньню Ангельшчыны. Пілсудзкаму патрэбна была бліжэйшая па тэрыторыі да СССР дзяржава, якая, да-рэчы сказаць, нібы-та мела намеры весьці мірную палітыку ў адносінах да СССР, зрабіць дзяржавай верна яму падлеглай. Апошняя кампанія Пілсудзкага па разгрому нацыянальна-рэволюцыйнага руху народных мас Заходняе Беларусі (арышт кіраўнікоў рэволюцыйных сялянскіх організацый) ёсьць плян дзеяньняў, які забясьпечвае „трываласьць“ становішча для буржуазнага польскага ўраду на Ўсходніх Крэсах, г.-зн. у Заходняй Беларусі. Апрача таго, гэтае разбурэньне адбываецца пад пэўным політычным сьцягам. Напрыклад, паведамленьне польскіх газэт—офіцыйных вестак—аб тым, што памянёныя організацыі працуюць нібы-та па заданьню і на грошы суседняй „чужаземнай дзяржавы“, ёсьць ні што іншае, як тонкі намёк на некаторыя акалічнасьці. Апісаньне падрабязкаў арыштаў польскімі газэтамі цалком дапасаваны да таго, каб, разбурыўшы нацыянальна-рэволюцыйную організацыю, прыступіць таксама да тэрору і над комуністычнаю партыяю. Усё гэта робіцца па строга разьлічанаму пляну. Вось што гавораць польскія газэты аб падрабязгах арыштаў. Уся польская прэса апублікавала офіцыйны комунікат польскага ўраду наступнага зьместу:

„Пэўныя організацыі ўжо на працягу досыць доўгага часу праводзілі сваю дзейнасьць на тэрыторыі дзяржавы, прычым сродкі, неабходныя для гэтай дзейнасьці, выключаюць магчымасьць пакрыцьця іх ад уласных сваіх паступленьняў. Інструктары, агітатары і агенты, якія шчодра аплачваліся; выданьне шматлікавых адозваў, брошур і газэт, якія рассылаліся дарэмна, і опэрацыі з беззваротнымі пазыкамі, якія выдаваліся для таго, каб прывабіць да сябе прыхільнікаў,—усё гэта сьведчыць аб тым, што дзейнасьць гэтых організацый аплачваецца чужымі сіламі.

На чале гэтых організацый стаяла некалькі соймавых дэпутатаў, якія распараджаліся вельмі шырока сродкамі з чужых крыніц. Такой дзейнасьці, накірованай на шкоду дзяржаве, урад цярпець больш ня мог. Урад ня можа дапусьціць распаўсюджаньня непарадкаў сярод мірнага насельніцтва, а таксама правядзеньня злачынных плянаў, накірованых, згодна загаду чужых сіл, да таго, каб выклікаць у нас непарадкі. Дэпутаты, якія стаялі на чале гэтай організацыі, а іменна: Тарашкевіч, Валошын і Рак-Міхайлоўскі, арыштаваны разам з іншымі правадырамі гэтых організацый“.

Адна з польскіх газэт апублікавала ў сувязі з арыштамі паведамленьне наступнага зьместу:

„ На працягу досыць доўгага часу ўладамі грамадзкай небясьпекі вялося нагляданьне за анты-дзяржаўнай працай, яўна комуністычнага характару, так званых „беларускіх гурткоў“, аб'яднаных у „Рабоча-сялянскую грамаду“, якая мела сваё парляманцкае прадстаўніцтва.

Вынікам гэтага нагляданьня зьявіўся арышт трох дэпутатаў беларусоў: Браніслава Тарашкевіча, Сымона Рак-Міхайлоўскага і Паўла Валошына. Арышт вышэйпамяненых дэпутатаў адбыўся ў Вільні.

Дэпутат Тарашкевіч быў арыштаваны ў кватэры дырэктара беларускай гімназіі і аднаго з дырэктароў коопэрацыйна-беларускага банку Астроўскага, г. зн. на яго дачы ў чыгуначнай коленіі ў 4-х вярстах ад Вільні, дзе быў арыштаваны і сам Астроўскі. Рэвізія ў апошняга цягнулася ад 2-х да 5 гадзін уначы. Валошын быў арыштаваны ў памяшканьні „Грамады“, адкуль была вывезена на грузавіках і ўся літаратура. Рак-Міхайлоўскі быў арыштаваны ў сваёй кватэры Росьсе (прадмесьце Вільні) і вывезены на Лукішкі (турма) на аўтомобілі.

Трэба адзначыць, што нагляданьне за „беларускімі гурткамі“ было часткаю агульнага нагляданьня, што вялі агенты палітычнае паліцыі за работай комуністых у Польшчы, якія організавалі цэлую сетку комуністычных ячэек у краіне. Аднэй з форм гэтых „ком'ячэек“ былі „беларускія гурткі“.

Але, апрача „гуртkoў“, у гэту комуністычную сетку ўваходзіла таксама „Незалежная Сялянская партыя“, якая, разам з „гурткамі“ і „чыстымі“ комуністымі, вяла яўна-комуністычную пропаганду, працуючы па інструкцыях Комінтэрну“.

Як бачыце, таварышы, тутака прыцягваецца, прышпільваецца нібы-та іх праца компартыі. Гэтае прышпільваньне, бясспрэчна, грунтуецца на выдумках і фальшаваньнях, г. зн. Пілсудзкаму патрэбна так для таго, кабісьці далей у наступленьне і на партыю пролетарыяту. Усе гэтыя пляны Пілсудзкага ў поўнай меры азначаным спосабам разьлічаны ня толькі на прыдушэньне рэволюцыйнага руху народных мас унутры сваёй старонкі, але і на справы міжнароднага парадку. Тутака, апрача Пілсудзкага, ходзіць рука і іншых фашыцкіх застрэльшчыкаў, якія кіруюць Пілсудзкім. Няма абсолютна ніякіх сумненьняў у тым, што ніякім катам, хоць-бы самым патэнтованым, як Пілсудзкі, ніколі ня ўдасца прыдушыць рэволюцыйнасьці працоўных мас, якая з кожным днём расьце і будзе ўсё больш пашырацца. Я хачу яшчэ коратка спыніцца на увэрцюрах маршала Пілсудзкага ў адносінах політыкі да нацменшасьцяй. Тутака ўжо казаў у сваім дакладзе тав. Адамовіч, як Пілсудзкі заігрывае з паасобнымі прадстаўнікамі нацменшасьцяй. Гэтае заігрываньне яму патрэбна для таго, каб і далей марочыць галаву прыгнечаным нацыянальнасьцям у тым сэнсе, што нацменшасьці вось-вось нібы атрымаюць „поўную нацыянальную аўтономію“, і тым самым яму патрэбна зьменшыць тое абурэньне і неспакой працоўных нацменшасьцяй (беларусоў, украінцаў, яўрэяў і інш.), якое ўсё больш разьвіваецца на грунце поўнага нацыянальнага прыгнечаньня белапольскім урадам. Калі Комуністычная партыя і Савецкая ўлада ва ўмовах пролетарскага дзяржаўнага ладу, ладу Саветаў, праводзіць зусім цьвёрда і пасьлядоўна нацыянальную політыку ў адносінах да ўсіх нацыянальных народнасьцяй у сэнсе поўнага іхняга самавызначэньня, дазваляючы і дапамагаючы працоўным нацыянальных меншасьцяй разьвіваць сваю гаспадарку і культуру самастойна, паводле прынцыпу поўнага роўнапраўя,—а гэтаму довадам служыць хоць-бы апошняе пашырэньне БССР, далучэньне часткі, Гомельшчыны з большасьцю беларускага насельніцтва да Беларусі калі Комуністычная партыя і Савецкі ўрад вырашае гэта самым лёгкім спосабам на аснове прынцыпаў ленінскага вучэньня,—дык Пілсудзкі ў Польшчы толькі ірае на пачуцьцях нацыянальных меншасьцяй, усё больш і больш прыгнятаючы іх. Разумеецца, гэта яму пакуль што ўдаецца, галоўным чынам, па тых прычынах, што ён бярэ да сябе на службу для выкананьня сваёй нацыянальнай шулернай увэрцюры верных скрыпачоў дробна-буржуазнай нацыянал-дэмократычнай хэўры, якая,

галоўным чынам, паходзіць з інтэлігенцыі гэтых самых нацменшасьцяй. Гэтыя політычныя шулеры, якія гандлююць нацыянальнай політыкай і жывуць на прыбытку ад гэтага гандлю, як ксёндз Станкевіч, Паўлюкевіч і Арэміч, дапамагаюць буржуазнаму ўраду Польшчы адурваць насельніцтва нацменшасьцяй. Разумеецца, карэнныя і асноўныя прычыны, якімі адрозьніваецца сутнасьць нацыянальнай політыкі Савецкай дзяржавы ад дзяржавы буржуазнай, заключаюцца ў дыамэтральна-процілежнай сутнасьці ўсёй політыкі. Калі соцыяльна-клясавая структура Савецкай дзяржавы сама сабою вызначае пролетарскае вырашэньне ўсіх пытаньняў на карысьць працоўных мас і ў іх інтарэсах, дык соцыяльна-клясавая структура і сутнасьць буржуазнай дзяржавы вызначае вырашэньне ўсіх дзяржаўных і грамадзкіх пытаньняў, у тым ліку і нацыянальнага, выключна ў інтарэсах буйнай і дробнай буржуазіі і на яе карысьць, а гэта значыць—проці інтарэсаў працоўных мас, проці інтарэсаў пролетарыяту і сялянства. І іменна дзеля гэтага ніхто не паверыць Пілсудзкаму ў яго жаданьні даць нацыянальную аўтономію паасобным нацменшасьцям, бо Пілсудзкі прадстаўляе ў сваім урадзе самыя цёмныя сілы буржуазіі і фашыцкай рэакцыі, бо ён аднэй рукой падпісвае загад сваім чыноўнікам, якія працуюць у Заходняй Беларусі, вывучаць беларускую мову і адказваць селяніну на яго роднай мове, а другой рукой—рукой палача—разбурвае нацыянальна-рэволюцыйныя організацыі гэтага-ж сялянства, кідае ў турмы сотні і тысячы барацьбітоў за інтарэсы працоўных і сячэ гэтым барацьбітом галавы. Як можна пагадзіць—калі Пілсудзкі аднэй рукой накладае рэзолюцыю аб звальненьні яўрэяў-саматужнікаў ад падаткаў, а другой рукой разбурае рэволюцыйныя організацыі яўрэйскіх рабочых.

Усё гэта ёсьць ні што іншае, як продукт політыкі буржуазіі, якая ўсю сваю політыку вядзе выключна ў сваіх інтарэсах проці інтарэсаў працоўных.

На гэтай шулерскай нацыянальнай гульні буржуазнага ўраду Польшчы павінны зрабіць сабе вывад і тыя «політыкі» з інтэлігенцыі, якія спакойна адпачываюць і ў межах Савецкай Беларусі і вельмі часта наракаюць на Комуністычную партыю за тое, што яна кіруе справай нацыянальнай політыкі ў Савецкай дзяржаве. Як вам вядома, у справе нацполітыкі нам таксама даводзіцца сустракацца з шэрагам скажэньняў лініі партыі паасобнымі прадстаўнікамі шовіністычнай інтэлігенцыі. З аднаго боку, нам прыходзіцца перамагаць вялікадзяржаўныя імкненьні паасобных бюрократычных чыноўнікаў, якія яшчэ дзені-дзе засталіся ў нашым апараце, а з другога боку, мы павінны весьці ня меншую барацьбу і з настроямі нацыянал-дэмократычнага ўхілу. Прадстаўнікі абедзьвюх гэтых груп стаяць не на грунце пролетарскай політыкі, а на грунце буржуазнай, а значыцца, стаяць за інтарэсы буйнай і дробнай буржуазіі проці інтарэсаў пролетарыяту.

Закончваючы сваё выступленьне, я хачу ў заключэньні сказаць, што работа нашай Сэсіі будзе лепшым паказчыкам таго, што толькі пры ўмове дыктатуры пролетарыяту інтарэсы працоўных мас могуць быць поўнасьцю забясьпечаны, што, незалежна ад усіх спроб і намераў імпэрыялістых і іхных наймітаў, рабочая кляса і працоўнае сялянства як Савецкай Беларусі, гэтак і ўсяго Савецкага Саюзу будуць і далей будаваць сваю соцыялістычную гаспадарку і культуру, бо на абароне гэтага будаўніцтва стаіць увесь міжнародны пролетарыят і яго ўзброены атрад—Чырвоная армія. Калі-ж каму-небудзь уздумаецца парушыць гэтае мірнае будаўніцтва Савецкага Саюзу, дык я думаю, што наўрад ці яму паздаровіцца, бо рабочая кляса і сялянства, калі зьявіцца патрэба, заўсёды будуць гатовы (в о п л е с к і).

Старшыня: Тутака яшчэ запісалася ў спрэчкі 15 чалавек. Ёсьць прапанова спыніць спрэчкі. Ці ёсьць супярэчаньні? (Голас з месца: Я лічу, што на гэтай Сэсіі ня шмат пытаньняў, і таму трэба даць магчымасьць усім выказацца).

Старшыня: Галасую: хто за тое, каб спрэчкі працягваць?— Мала. Хто за тое, каб спыніць?—Большасьць. Спрэчкі спыняюцца. Заключнае слова мае т. Адамовіч.

Тав. Адамовіч: Мы ня сустрэлі на гэтай Сэсіі з боку членаў ЦВК ніякіх супярэчнасьцяй па таму дакладу, які я зрабіў учора. Усе тыя сяляне—члены ЦВК, якія выступалі сёньня, і прадстаўнікі тых ці іншых організацый гаварылі аб тым, што гэтыя мерапрыемствы праведзены сваячасова і ў інтарэсах усіх рабочых і сялян. Гэта ўсім вядомая рэч, бо ў нас, у рабоча-сялянскім Саюзе, асноўная наша позыцыя ў вырашэньні нацыянальнага пытаньня практычна даказала, што ўсе рабочыя і сяляне згодны з мэтаю нацыянальнаю політыкаю і што толькі гэтая наша нацыянальная політыка дае магчымасьць канчаткова вызваліцца ад нацыянальнага і клясавага прыгнечаньня, у якім жылі рабочыя і сяляне пры царызьме і ў якім зараз жывуць ва ўсіх капіталістычных дзяржавах. Вось чаму, зразумела, тут ня было і не магло быць ніякіх супярэчаньняў ні з аднаго боку. Пашырэньне Беларускае Рэспублікі грунтавалася на нацыянальнасьці насельніцтва, бо тая тэрыторыя, якая цяпер далучана да Беларусі, мае ў сваёй большасьці беларускае насельніцтва. Такая-ж сувяз з Беларусьсю мае далучаная частка Гомельшчыны і з боку гаспадарчага. Прамысловасьць, якая існуе цяпер у Беларусі, у Гомельскім і Рэчыцкім паветах, будзе далей разьвівацца згодна адзінаму пляну Рэспублікі. Усе пытаньні як нацыянальныя, так і гаспадарчыя ў далучаных Гомельскай і Рэчыцкай акругах аднатыповыя з такімі-ж пытаньнямі ўсяе Беларусі, і таму злучэньне іх у адно цэлае будзе вельмі карыснае ў сэнсе агульнага разьвіцьця культуры і гаспадаркі БССР у сучасных яе межах. Дзеля гэтага тутака ня было ніякіх супярэчнасьцяй, якія-б гаварылі, што гэтая справа зроблена або несваячасова, або не мэтазгодна з пункту погляду нашае клясавае позыцыі. І дзеля гэтага я ня маю патрэбы з свайго заключнага слова рабіць вялікае прамовы, а хачу толькі спыніцца на некаторых пытаньнях.

Усе гаспадарчыя пытаньні, якія стаяць перад намі ў Савецкай Беларусі, будуць падрабязна дакладзены на Сэсіі ў адпаведных дакладах. Дзеля гэтага на гаспадарчых пытаньнях і на ўсіх плянах, якія стаяць перад намі, я ў заключным слове ня буду спыняцца.

Тутака таварышы казалі аб тым уціску, які маецца ў Заходняй Беларусі, у Польшчы, тут таварышы казалі аб тым, што трэба нам, Савецкай уладзе, прыняць цэлы шэраг мерапрыемстваў для таго, каб дапамагчы сялянам і рабочым Заходняе Беларусі, у якой мы наглядаем страшэнны ўціск рабоча-сялянскае масы.

У адказ на гэта я павінен адзначыць, што мы, Савецкая ўлада, як ва ўсім Саюзе, таксама і ў Савецкай Беларусі вялі, вядзем і будзем весьці політыку міра, бо мы хочам ня больш і ня менш, як адбудоўваць нашую гаспадарку, нашую культуру, мы хочам будаваць соцыялізм, мы хочам палепшыць матар'яльнае становішча рабочых і сялян, бо становішча беднаты на вёсцы, беспрацоўных, і мала кваліфікаваных груп рабочых у горадзе—не такое добрае, як-бы нам хацелася. Ёсьць цэлы шэраг недахопаў ва ўсіх галінах гаспадарчага жыцьця, ва ўсіх галінах нашай культурнай справы, і мы толькі тады зможам зьнішчыць гэтыя недахопы, перамагчы іх, калі будзем таксама, як і дагэтуль, весьці нашу

мірную культурную працу. Вось гэта ёсьць грунт нашае міжнароднае політыкі, якая зьяўляецца політыкай міра. Мы хочам выканаць усе тыя ўмовы, якія падпісаны з буржуазнымі дзяржавамі не для таго, каб дапамагаць ім душыць рабочых і сялян у гэтых дзяржавах. Не! Зразумела, не! Для гэтага, сваёй мірнай працай мы імкнемся да таго, каб хутчэй ўмацоўваць Савецкі Саюз і каб само існаваньне магутнага Савецкага Саюзу, моцнай Савецкай Беларусі дапамагала сваім існаваньнем, у якасьці прыкладу, перадавому авангарду міравога пролетарыяту—усім рабочым і сялянам усіх дзяржаў, дзе яшчэ сёньня пануе капіталізм, скінуць гэтае капіталістычнае ярмо. Гэта наша агульная програма, гэта наша агульная мэта. Сёньня мы выпаўняем тыя ўмовы, і хочам грунтавацца на тых умовах, якія мы зрабілі з буржуазнымі дзяржавамі, каб весьці мірную культурную работу, і не манімся да таго, каб весьці тую або іншую падрыхтоўку да вайны. Зразумела, тыя апошнія провокацыі, аб якіх гаварылі таварышы ў спрэчках, і апошнія провокацыйныя вылазкі супроць Савецкага Саюзу спаткаюць у нас належны адпор, бо рабочы і селянін добра ведае аб неабходнасьці абараняць Кастрычнікаўскую рэволюцыю і Савецкі Саюз, бо толькі Кастрычнікаўская рэволюцыя і сучаснасьць ва ўмовах Савецкага Саюзу дае працоўнаму люду магчымасьць падняць гаспадарку, палепшыць матар'яльнае палажэньне і організаваць новую грамадзкасьць на новым грунце. Аднак ясна і тое, што калі хто-небудзь захоча нам перашкаджаць у гэтай нашай мірнай культурнай рабоце, дык мы дамо такі адпор, якога буржуазія ніколі і не чакае. Капіталізм сягоньня ўжо не такі, якім быў раней, некалькі дзесяцігодзьдзяў таму назад. Ён сягоньня культае; у капіталізьме ня ўсё ў парадку. Гэтак, напрыклад, Польшча ня можа сягоньня ваяваць з Савецкім Саюзам або з Савецкай Беларусьсю, бо ў яе ўнутры няма парадку. Яна ня можа сягоньня вывесьці супроць нас войска, бо рабочыя і сяляне ня пойдуць ваяваць з Савецкім Саюзам, а пойдуць лепш ваяваць з капіталістычнай уладай, якая ёсьць у Польшчы або ў іншых капіталістычных дзяржавах, якія сягоньня не даюць магчымасьці гэтым рабочым і сялянам наладзіць дабрабыт. Аднак, на ўсялякі выпадак нам трэба заўсёды быць гатовымі да абароны нашай мірнай будаўнічай працы, якую мы цяпер вядзем.

Таварыш з Гомелю гаварыў, што мы ня ведаем настрояў сялян Гомельскага і Рэчыцкага паветаў у пытаньні аб далучэньні гэтых паветаў да Беларусі. Таварышы! мы добра ведаем настрої нашага сялянства, мы ведаем, што селянін сягоньня хоча працаваць сумесна з рабочай клясай для аднаўленьня нашай гаспадаркі і культуры. Селянін, які пры царызьме быў прыгнечаны і з боку нацыянальнага і з боку клясавага, калі ён вызваліўся, ён хоча яшчэ больш пашыраць і ўмацоўваць сваю нацыянальную і клясавую работу. Мы ўзялі лінію на тое, каб умацоўваць сувязь гораду з вёскай, гэтая задача зьяўляецца правільнай і ў гэтым парука нашае перамогі.

Я лічу, што мне ў маім заключным слове больш няма аб чым гаварыць, таму што ўсе таварышы, што выступалі, дапоўнілі сказанае мною і выявілі ўсе тыя факты, якія з пункту погляду вызначэньня задач, што стаяць перад намі, нам трэба ведаць. Трэба толькі адно сказаць, што ва ўсёй тэй політыцы і ва ўсіх тых задачах, якія мы ставім перад сабою, мы павінны яшчэ больш умацоўваць сувязь гораду з вёскай, яшчэ больш аб'яднаць працоўных наўкол нашых саветаў, каб праз гэтую работу, умацоўваючы Беларускую рэспубліку, выкаваць такую Рэспубліку, якая, разам з Савецкім Саюзам, будзе будаваць соцыялізм і якая ў першую чаргу, калі трэба будзе выйсьці на аба-

рону ад нападу капіталізму, выйдзе разам з усім Савецкім Саюзам. Капіталістыя гэта добра павінны разумець. Але капіталістыя павінны ведаць і іншае. Калі яны будуць уціскаць той рэволюцыйны рух, які сёньня ўздымаецца заграніцаю, асабліва у Польшчы (Заходняй Беларусі), дык за гэтымі рабочымі і сялянамі стаіць Рабоча-Сялянскі Саюз, які можа пайсьці ім на дапамогу вызваліцца ад капіталістых (бурныя воплескі).

Старшыня: Слова для прапановы даецца т. Чарнушэвічу.

Тав. Чарнушэвіч: Таварышы, я прапаную Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту па дакладу т. Адамовіча прыняць наступную рэзолюцыю (чытае).

**Рэзолюцыя па дакладу т. Адамовіча.**

Заслухаўшы даклад т. Адамовіча аб далучэньні да БССР Гомельскага і Рэчыцкага паветаў б. Гомельскай губ., аднолькавых з ёю як па складу насельніцтва, так і па экономічных умовах, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР поўнасьцю ўхваляе працу ўраду ў гэтым кірунку і зацьвярджае прынятыя Прэзыдыумам ЦВК і Саветам Народных Камісараў наступныя пастановы:

1. Ад 8-га сьнежня 1926 году аб далучэньні да БССР Рэчыцкага і Гомельскага паветаў са складу быўш. Гомельскай губ. РСФСР.

2. Ад 8-га сьнежня 1926 г. аб перайменаваньні Рэчыцкага і Гомельскага паветаў у вакругі і валасьцей гэтых паветаў—у раёны.

3. Ад 8-га сьнежня 1926 г. адозва да ўсіх працоўных Савецкай Беларусі.

4. Ад 27-га сьнежня 1926 г. аб кіраўніцтве Гомельскай акругай.

5. Ад 30-га сьнежня 1926 г. аб сіле законаў РСФСР і БССР для тэрыторыі быўш. Гомельскага і Рэчыцкага паветаў, далучаных да БССР са складу б. Гомельскай губ. РСФСР.

Далучэньне да БССР Гомельскага і Рэчыцкага паветаў са складу РСФСР зьяўляецца новым доказам нязьменнай пасьлядоўнасьці савецкае ўлады ў вырашэньні нацыянальнага пытаньня.

У той час, як у буржуазных дзяржавах ня толькі не паслабляецца, а няўхільна ўзмацняецца політыка эксплёатацыі і прыгнечаньня слабейшых нацыянальнасьцяй, калі за рубяжом Савецкага Саюзу беларускае насельніцтва знаходзіцца ў становішчы экономічнага, політычнага і культурнага прыгнечаньня, у Саюзе Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік працоўным усіх нацыянальнасьцяй сапраўды забясьпечваюцца магчымасьці да экономічнага і культурнага разьвіцьця.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт прызнае, што ўзбуйненьне БССР павялічыла прамысловую і пролетарскаю базу Рэспублікі, павысіла яе значэньне ў гаспадарцы Саюзу ССР, павялічыла магчымасьці соцыялістычнага будаўніцтва, стварыла больш спрыяючыя ўмовы для далейшага экономічнага і культурнага разьвіцьця, забясьпечваючы далейшае ўзмацненьне саюзу рабочае клясы з сялянствам.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт заклікае ўсіх працоўных БССР яшчэ цясьней згуртавацца ў адну працоўную сям'ю дзеля таго, каб пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі больш пасьпешна і хутчэй вырашыць усе задачы соцыялістычнага будаўніцтва, ухваляе мерапрыемствы ўраду, накіраваныя да вырашэньня наступных задач:

**У галіне прамысловасьці.**

а) ажыцьцяўленьня на далучанай тэрыторыі намечаных на 26-27 г. плянаў будаўніцтва і аб'яднаньня іх з агульна рэспубліканскімі плянамі па прамысловым будаўніцтве;

б) узмацненьня будаўніцтва новых фабрык і заводаў, галоўным чынам, пераапрацоўваючых мясцовую сыравіну і дастаўляючых вёсцы сельска-гаспадарчыя машыны і прылады, з мэтай павялічэньня адноснае вагі прамысьловасьці ў экономіцы БССР і хутчэйшай індустрыялізацыі краіны;

в) ажыцьцяўленьня рэжыму экономіі шляхам скарачэньня нерацыянальных выдаткаў з мэтай павялічэньня сродкаў, вызначаных непасрэдна на разьвіцьцё прамысловае вытворчасьці;

г) палепшаньня якасьці продукцыі, а таксама большага прыстасаваньня вытворчасьці да запатрабаваньняў рынку (якасьць, асортымэнт і цэны);

д) правядзеньня і ў далейшым працы па тэхнічным пераабсталяваньні прамысловых прадпрыемстваў, палепшаньні даставы ім сыравіны, узмацненьні працоўнае дысцыпліны, павышэньні кваліфікацыі рабочых з мэтай падняцьця вытворчасьці працы;

е) дапамогі ўзмацненьню і разьвіцьцю саматужнае прамысловасьці і шляхам коопэраваньня саматужнікаў забесьпячэньне іх крэдытам, дастаўка ім сыравіны і прылад вытворчасьці, організацыі збыту іх вырабаў з мэтай, галоўным чынам, узьняцьця экономічнага дабрабыту мястэчка;

ж) няўхільнага працягу працы ў галіне палепшаньня матар'яльнага становішча рабочых і дапамогі кватэрнаму рабочаму будаўніцтву ў залежнасьці ад агульнага ўздыму экономічнае моцы краіны.

### У галіне сельскае-гаспадаркі.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР лічыць неабходным далейшае ўзмацненьне курсу разьвіцьця вытворчых сіл вёскі, што забясьпечыць магчымасьць хутчэйшага разьвіцьця прамысловасьці і ўсяе народнае гаспадаркі СССР. Адносна сялянскае гаспадаркі—трэба працягваць мерапрыемствы, накіраваныя да разьвіцьця тэхнічных культур, мэханізацыі сельскай гаспадаркі, разьвіцьця асноўных для БССР відаў сельска-гаспадарчае коопэрацыі і колектыўных форм у сельскай гаспадарцы. Неабходна праводзіць неаслабна працу па зямляўпарадкаваньні, мэліорацыі, працягваць экономічную дапамогу беднаце і парабком і ўзмяцняць ролю экономічнае ўзаемадапамогі ў сельскай гаспадарцы. Неабходна таксама ўзмацняць лясную гаспадарку, пашыраць працу на торфараспрацоўках і агнятрывалым будаўніцтве.

У прыватнасьці, па лініі сельскае гаспадаркі на бліжэйшы час неабходна:

а) правесьці шэраг мерапрыемстваў і аказваць дапамогу ў палепшаньні якасьці корму і ў організацыі коопэрацыйных аб'яднаньняў, якія ставяць сабе за мэту разьвіцьцё жывёлаводзтва;

б) узмацніць коопэраваньне сельскага насельніцтва, асабліва па лініі сельска-гаспадарчай коопэрацыі, давёўшы лік коопэраваных гаспадарак да 50 проц. агульнага ліку сялянскіх гаспадарак;

в) узмацніць увагу па ўцягненьні ў сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы і касы ашчаднасьці ўкладаў з боку сялянства, бо выкарыстаньне зьберажэньняў насельніцтва адыграе значную ролю ў справе ўзьняцьця ўзроўню гаспадаркі БССР.

Узмацніць існуючыя яўрэйскія сялянскія гаспадаркі—колектывы, высёлкі, хутары, вёскі і г. д.—і ў далейшым працягваць працу па надзелу яўрэяў зямлёю.

### У галіне асьветы.

Разглядаючы культурна-асьветнае будаўніцтва, як задачу, што стаіць у цеснай сувязі з экономічным адраджэньнем БССР, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт лічыць неабходным:

а) ажыцьцяўленьне правядзеньня ўсеагульнага навучаньня ў тэрміны, вызначаныя ўрадам;

б) правядзеньне будаўніцтва школьнае сеткі ў такім разьмеры і такім чынам, каб усе нацыянальнасьці, якія жывуць на тэрыторыі БССР, атрымалі магчымасьць навучаньня дзяцей на іх роднай мове;

в) ліквідацыя няпісьменнасьці сярод дарослага насельніцтва, зварачаючы асаблівую ўвагу на працу ў сельскіх мясцовасьцях;

г) забясьпечаньне поўнага задаволеньня кнігамі і вучэбнымі падсобкамі школ;

д) прыстасаваньне профтэхнічнае асьветы да патрэб галін беларускае гаспадаркі ў кваліфікаванай сіле;

е) забясьпечаньне доступу ў выш. навучальныя ўстановы, тэхнікумы і інш. навуковыя ўстановы БССР насельніцтва Гомельскай і Рэчыцкай акруг.

ж) пашырэньне політ-асьветнае працы сярод насельніцтва, дзеля чаго прасунуць кнігу ў вёску, організоўваць хаты-чытальні і г. д.

### У галіне нацыянальнае політыкі.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, ухваляючы папярэднюю дзейнасьць ураду, лічыць неабходным і ў далейшым не паслабляць тэмп беларусізацыі з поўным выкананьнем раней намечаных пляноў.

Улічваючы далучэньне да БССР часткі Гомельшчыны, дзе правядзеньне беларусізацыі крыху спазьнілася, неабходна стварыць там умовы, якія-б забясьпечвалі плянамернасьць гэтае працы падлікам мясцовых асаблівасьцяй.

Ухваляючы ўсе практычныя мерапрыемствы ўраду, накіраваныя да поўнага забясьпечаньня экономічных і культурных патрэб насельніцтва нацыянальных меншасьцяй, а таксама магчымасьці карыстацца роднай мовай пры зносінах з дзяржаўнымі, профэсыянальнымі, коопэрацыйнымі і грамадзкімі ўстановамі і організацыямі, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт лічыць неабходным у далейшым гэтыя мерапрыемствы разьвіваць і ўзмацняць з пункту погляду поўнага роўнапраўства ўсіх нацыянальнасьцяй і моў, фактычнага забясьпечаньня матар'яльных патрэб і запытаў працоўнага насельніцтва нацыянальных меншасьцяй, культурнага разьвіцьця іх і ўцягненьня ў савецкае будаўніцтва.

### У справе дапамогі Чырвонай арміі.

У БССР, якая знаходзіцца на рубяжы з капіталістычнымі краінамі, пытаньні Чырвонай арміі, яе бояздольнасьці набываюць большае значэньне. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР даручае ўраду і ў далейшым аддаваць адпаведную ўвагу патрэбам Чырвонае арміі, сконцэнтроўваючы на пытаньнях узмацненьня абароназдольнасьці краіны ўвагу працоўных мас. Дзеля гэтага неабходна як мага шырэй популярызаваць мэты і задачы добраахвотнага таварыства дапамогі абароне „Авіахіма“.

Адзначаючы зазначаныя задачы, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт думае, што вырашэньне гэтых задач будзе ўзмацняць Савецкую ўладу як дыктатуру пролетарыяту, будзе забясьпечваць экономічны і культурны рост Савецкае Беларусі, а разам з тым узмацняць Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік уцалку.

Тав. Чарвякоў: Прапануецца гэтую рэзолюцыю прыняць. Я галасую: хто за гэтую рэзолюцыю? (Рэзолюцыя прымаецца аднагалосна). Няхай жыве аб'яднаная Беларусь! (Бурныя воплескі). Таварышы, тут прадстаўнік Беларускай Вайсковай Школы выказаў жаданьне прывітаць вас. Слова для прывітаньня Аб'яднанай імя ЦВК БССР школы мае т. Федаровіч.

Тав. Федаровіч (воплескі: Курсанты і чырвонаармейцы Аб'яднанай Школы імя ЦВК БССР перадаюць сёньня IV-й Сэсіі ЦВК гарачае прывітаньне і пажаданьне карыснай работы нашаму Беларускаму Ураду, пажаданьне вырашэньня паленінску ўсіх пытаньняў, што стаяць на павестцы. (Бурныя воплескі). Перад нашым беларускім урадам стаіць шэраг пытаньняў аб соцыялістычным будаўніцтве і яшчэ шэраг пытаньняў у сувязі з далучэньнем да Беларускай Рэспублікі Гомельшчыны. Нашы курсанты спадзяюцца, што Беларускі ўрад і ў далейшым будзе паленінску вырашаць пытаньні экономічнага характару, пытаньні нацыянальнай політыкі, як вырашаў да гэтага часу. Таварышы! пытаньні нашага соцыялістычнага будаўніцтва, у сувязі з міжнароднай атмосфэрай, якая зараз стварылася, у сувязі са стварыўшыміся міжнароднымі абставінамі і небясьпекай і пагрозай вайны, якая насоўваецца, надзвычайна ўскладняюцца. Нашы курсанты, разам з прывітаньнем, даручылі мне ўпэўніць Савецкі ўрад у тым, што яны зараз у мірны час пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі, пад кіраўніцтвам свайго комполітскладу набываюць тыя веды, якія ім трэба будзе перадаць чырвонаармейцам. Курсанты зробяць усё, каб дапамагчы нашай Чырвонай арміі, Савецкай уладзе і Комуністычнай партыі ва ўсіх яе мерапрыемствах. Поруч з вывучэньнем усіх патрэбных пытаньняў, курсанты добра разумеюць, што ўсе яны зьяўляюцца членамі нашай соцыялістычнай сям'і, і адсюль выходзіць, што, апрача вывучэньня, яны павінны падрыхтоўваць добрых грамадзкіх працаўнікоў; і ў той час, калі курсанты выйдуць з Арміі, яны будуць работнікамі ў вёсцы і ў горадзе, будуць праваднікамі ідэй Комуністычнай партыі і Савецкай улады. У сувязі са становішчам, якое зараз стварылася, яны разумеюць свае баявыя абавязкі, яны ўжо сёньня стаяць каля свае зброі каля сваіх кулямётаў. Дазвольце мне ўпэўніць Беларускі ўрад, што у той час, калі на нас пойдзе панская шляхта і сусьветная буржуазія, якая ўвесь час пасягае на наша мірнае жыцьцё, мы будзем гатовы даць ім адпор. І калі небудзь, калі Пілсудзкі суне за нашыя межы свой нос, дык ён прымушаны будзе адвярнуць яго назад, таму што мы, вышаўшыя з рабочых і сялян, стаімо за справу рабочых і сялян. Мы пад штандарам Комуністычнае партыі самі пойдзем і павядзем за сабою рабочых і сялян у вапошнюю рашучую і пераможную бойку за лепшыя ідэі пролетарыяту. (Бурныя і доўгія воплескі).

*(Пасяджэньне зачыняецца).*





Менск, 1-я дзярж. друкарня зак. № 1152—300. Галаўлітбел № 23799.

